# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

16

ДВУХТЫДНЕВАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН ЦККП(б)Б

1930

МЕНСК

# № 16 „ПАРТРАБОТНІК“



Галоўлітбел № 2741. Зак. 790. У ліку 1750 экз. „Палесдрук“, Гомель

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 16 Лістапад 1930 г. № 16

## Супроць права-„левага“ блёку і яго прыхільнікаў

Наша соцыялістычнае будаўніцтва адбываецца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Разгорнутае наступленьне па ўсім соцыялістычным фронце выклікае шалёнае супраціўленьне клясавых ворагаў у горадзе і на вёсцы. За кожнай цяжкасьцю соцыялістычнага будаўніцтва хаваецца клясавы вораг. Усе тыя вялізарныя дасягненьні, якія мы маем, зьяўляюцца вынікам правільнай генэральнай лініі партыі, організаванага і кіруемага партыяй наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Мы ня здолелі-б забясьпечыць вялізарныя перамогі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва над клясавым ворагам, мы не змаглі-б прыступіць да ажыцьцяўленьня лёзунгу—ліквідацыя кулацтва як клясы на падставе суцэльнай колектывізацыі,—калі-б наша партыя ня была сталёвай, адзінай Ленінскай партыяй.

Пасьпяховая падрыхтоўка і правядзеньне наступленьня па ўсім соцыялістычным фронце былі-б немагчымы бяз зьніжэньня трацкісцкай опозыцыі, якая абярнулася ў контррэволюцыйны атрад нашай і міжнароднай буржуазіі. Разгорнутае наступленьне па ўсім соцыялістычным фронце нельга было-б прарабіць без мобілізацыі ўвагі ўсяе партыі на барацьбу супроць правага ўхілу як галоўнай небясьпекі на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, рэцыдываў трацкізму і прымірлівых адносін да іх.

„**Правы ўхіл адбівае супраціўленьне асноўных элемэнтаў аджываючых клясаў, менавіта таму правы ўхіл ёсьць асноўная небясьпека нашага часу ў партыі**“ (Сталін). Паколькі правы ўхіл „адбівае супраціўленьне асноўных элемэнтаў аджываючых клясаў“ і зьяўляецца кулацкай агентурай унутры нашай партыі, пастолькі правы ўхіл зьяўляецца мобілізацыйным, прыцягальным цэнтрам для ўсіх клясава-варожых, антыпартыйных элемэнтаў як у нашай краіне, так і тых, якія яшче дзе-ні-дзе ёсьць унутры партыі. Тое, што контррэволюцыйныя і шкодніцкія організацыі тыпу Кандрацьцева-Суханава-Рамзіна падтрымлівалі правы ўхіл, пацьвярджае, што асноўныя элемэнты аджываючых клясаў імкнуліся скарыстаць правы ўхіл, правых ухілістых для разлажэньня нашай партыі, для зьвяржэньня дыктатуры пролетарыяту і для організацыі ваеннай інтэрвэнцыі.

Абвастрэньне клясавай барацьбы, якое прыняло асабліва яскравы характар на сучасным этапе ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, узмацніла націск на партыю клясава-варожых элемэнтаў. Вынікам узмацненьня націску клясава-варожых элемэнтаў на партыю зьяўляецца стварэньне антыпартыйнага права-„левага“ блёку на чале з Сырцовым і Ломінадзе. Як стварэньне, так і работы гэтага права-„левага“ блёку яскрава пацьвяр-

джаюць папярэджаньне XVI зьезду партыі па дакладу т. Сталіна аб тым, **што опортуністыя прымяняюць новы манэўр у барацьбе з партыяй. Гэты манэўр выражаецца ў тым, што, прызнаючы на словах генэральную лінію партыі, правыя і „левыя“ опортуністыя на практыцы вядуць барацьбу як супроць генэральнай лініі партыі, так і супроць Ленінскага кіраўніцтва нашай партыі на чале з т. Сталінам.**

Руцін, Сырцоў, Нусінаў, Каўрайскі, Ломінадзе, Шацкін, прыкрываючыся прызнаньнем на словах генэральнай лініі партыі, фактычна будавалі і пабудавалі сваю нелегальную фракцыйную організацыю, стварылі блёк права-„левых“ опортуністых на чале з Сырцовым і Ломінадзе. Програмы гэтага блёку фракцыі ў сваей аснове зьяўляюцца праваопортуністычнай програмай. Асноўнымі элемэнтамі пляцформы Сырцова-Ломінадзе зьяўляецца патрабаваньне скарачэньня тэмпаў індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Сырцоў не зразумеў таго, што нашы цяжкасьці зьяўляюцца цяжкасьцямі росту, ён забыўся на нашы дасягненьні.

Сырцоў і Ломінадзе ліквідацыю беспрацоўя, недахоп у рабочай сіле тлумачылі тым, што рабочыя не жадаюць працаваць, што рабочым больш выгодна стаяць у чаргах для таго, каб спэкуляваць атрымоўваемымі па ордэрах таварамі. Ці магчымы больш абураючы паклёп на нашу рабочую клясу? Сырцоў, Нусінаў, Каўрайскі не зразумелі, што ліквідацыя беспрацоўя зьяўляецца вынікам вялізарнейшага капітальнага будаўніцтва, вялізарнейшага будаўніцтва сельскай гаспадаркі і значнага росту колькасьці рабочых у нашай прамысловасьці.

Чаго каштуе думка Сырцова аб тым, што „мы ўсе стаім на дзьве галавы ніжэй стаячых перад намі задач“? Гэта значыць, што Ленінскае кіраўніцтва нашай партыяй, уся партыя рабочае клясы яшчэ не насьпелі для таго соцыялістычнага будаўніцтва, якое цяпер праводзіцца. Калі правільна, што „мы на дзьве галавы ніжэй стаячых перад намі задач“, дык відаць, што ўсе тыя вялізарныя дасягненьні, якія ў нас ёсьць, зьяўляюцца ў выніку самацёку. Тэзіс Сырцова аб тым, што „мы стаім на дзьве галавы ніжэй стаячых перад намі задач“, толькі паўтарае соцыял-фашысцкі, меншавіцкі тэзіс аб тым, што яшчэ ў нашай краіне не насьпелі ўмовы для будаўніцтва соцыялізму.

Што цэмэнтавала, што злучала Сырцова, старога правага опортуністага, з „леваком“ Ломінадзе? Блёк Сырцова-Ломінадзе зьяўляецца беспрынцыповым блёкам пастолькі, паколькі іх злучала барацьба супроць унутрыпартыйнага адзінства, барацьба супроць Ленінскага кіраўніцтва, барацьба супроць ЦК партыі на чале з т. Сталіным. Ацэнку ўнутрыпартыйнага становішча фракцыйная групоўка Сырцова, Нусінава, Каўрайскага ўзяла ў Троцкага. Блёк Сырцова-Ломінадзе стварыўся на падставе экономічнай пляцформы правых опортуністых і ўнутрыпартыйнай пляцформы трацкізму. Пляцформа гэтага блёку па сутнасьці сваёй зьяўляецца праваопортуністычнай пляцформай.

Асноўнымі элемэнтамі ўнутрыпартыйнай часткі пляцформы права-„левага“ блёку зьяўляецца трацкісцкі паклёп аб тым, што ў нас няма выбарнасьці, што партыя мэханічна галасуе. Барацьбу партыі супроць усялякіх скажэньняў яе генэральнай лініі, супроць правага опортунізму, рэцыдываў трацкізму блёк характарызуе як „наклейку ярлыкоў“ за кожнае самакрытычнае выступленьне. Тэорыя „наклейкі ярлыкоў“ — гэта трацкісцкая формулёўка і ацэнка барацьбы партыі за чыстату яе генэральнай лініі. Партыя ніколі не адмовіцца ад палітычнай характарыстыкі і ацэнкі ўсялякага скажэньня лініі партыі. Калі-б наша партыя не давала адпаведнай ацэнкі антыпартыйным, няленінскім выступленьням, гэта сьведчыла-б аб тым, што ўнутры нашай партыі магчыма пропаганда поглядаў, якія разыходзяцца з генэральнай лініяй партыі.

Правыя опортуністыя „левакі“, дvурушнікі, двудушнікі, вядома, нездаволены, калі партыя выкрывае іх палітычныя позыцыі. Сталёвае адзінства нашай партыі зьяўляецца вынікам барацьбы з усімі скажэньнямі генэральнай лініі партыі і бязьлітаснай, сыстэматычнай чысткі

шэрагаў партыі ад усіх тых, хто ня выконвае генэральнай лініі партыі на практыцы. На партыйным сходзе ў Копылі 16 лістапада, а ў Гомелі на сходзе ячэйкі „Рухавік Рэволюцыі“ мы маем шэраг выступленьняў, у якіх падтрымліваецца паклёп аб „прыклейцы ярлыкоў“ за ўсялякія выступленьні. Гэтыя выступленьні сьведчаць аб тым, што і ў нашых беларускіх організацыях ёсьць паасобныя члены партыі, якія альбо не разумеюць організацыйнай падставы нашай партыі, або двурушнічаюць у нашай партыі.

Асабліва за апошнія два гады мы маем сапраўдны магутны ўздым унутрыпартыйнай самакрытыкі. Апошнія два гады даюць шмат выразных прыкладаў актыўнага ўдзелу членаў і кандыдатаў партыі ў справе абароны генэральнай лініі партыі, у барацьбе з разлажэньнем, з заціскам самакрытыкі. Чыстка партыі, выбары партыйных органаў пад лёзунгам бязьлітаснай бальшавіцкай самакрытыкі, разгорнутая бальшавіцкая самакрытыка, шырокая практыка організацыі партыйных комітэтаў на прадпрыемстве, ліквідацыя акруг і перадача райкомам, масавыя вылучэньні рабочых на кіруючую працу, — вось некалькі прыкладаў паступовага разгортваньня бальшавіцкай унутрыпартыйнай дэмократыі.

Сырцоў-Ломінадзе гавораць аб тым, што партыя працуе на халастым хаду, што ініцыятыва рабочых бюрократызуецца, пакрываецца бюрократычнай карою, што нашы контрольныя органы павінны перш за ўсё ўзяцца за барацьбу з уласным бюрократызмам. І гэта гаворыцца ў той час, калі апошнія гады асабліва зьяўляюцца гадамі бурнага росту актыўнасьці рабочых, лепшай організацыяй гэтай актыўнасьці, максымальнага яе скарыстаньня. Гутаркі аб бюрократызьме ў контрольных органах адлюстроўваюць настроі тых клясава-варожых элемэнтаў, з якімі змагаецца КК, якіх КК вычышчае з апаратаў і з партыі.

Унутрыпартыйная пляцформа права-„левага“ блёку выцякае з праваопортуністычнай пляцформы гэтага блёку ў пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва. Аб прыклейваньні ярлыкоў крычаць усе, хто жадае атрымаць права пропагандаваць погляды, нясумяшчальныя з генэральнай лініяй партыі. Аб прыклейваньні ярлыкоў крычаць тыя, хто праводзіць на практыцы правы опортунізм, і каго партыя выкрывае як правых або „левых“ опортуністых. Погляды на ўнутрыпартыйнае становішча права-„левага“ блёку зьвязаны з опортуністычнымі поглядамі Сырцова і Ломінадзе па пытаньню экономічнай політыкі нашай партыі. Для таго, каб атрымаць магчымасьць барацьбы з генэральнай лініяй партыі, гэты блёк змагаўся за трацкісцкую зьмену ўнутрыпартыйнага становішча.

Бальшавікі ўсяго Савецкага Саюзу, бальшавікі Беларусі далі аднагалосны адпор усім фракцыйным вылазкам Руціна, Нусінава, Каўрайскага, Сырцова, Ломінадзе і Шацкіна. Двурушнікам няма месца ў партыі. Марэцкі і Стэцкі з партыі выключаны. Доўгае маўчаньне Бухарына, Рыкава і Томскага дапамагала мобілізаваць сілы права-„леваму“ блёку. Права-„левы“ блёк Сырцова-Ломінадзе зьяўляецца аднэй з адмен блёку правых опортуністых з трацкістымі.

Клясавая барацьба абвастраецца, мы разгарнулі вялізарнейшае наступленьне па ўсім соцыялістычным фронце. Клясавы вораг узмацняе сваё супраціўленьне соцыялістычнаму будаўніцтву. Мы ўступілі ў пэрыод соцыялізму. Мы пасьпяхова ліквідуем кулацтва як клясу, на падставе суцэльнай колектывізацыі, мы выкарчоўваем карэньні капіталізму. Усе гэтыя вялізарнейшыя задачы мы вырашаем у абставінах значна ўзмацніўшайся непасрэднай небясьпекі вайны. Сусьветны экономічны крызіс, абвастрэньне клясавай барацьбы ў капіталістычных краінах, абвастрэньне супярэчнасьцяй паміж паасобнымі капіталістычнымі краінамі, посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, выкрыцьцё шкодніцкіх і шпіёнскіх організацый прымусілі адкласьці інтэрвэнцыю, аб якой марылі ў 1930 г., але інтэрвэнцыя адкладзена на кароткі тэрмін, мы стаім на парозе вайны. У гэтых умовах асабліва злачынным зьяўляецца стварэньне і разгортваньне работы фракцыі права-„левага“ блёку. Об'ектыўна ўся работа правых опортуністых, трацкістых і права-„левай“

формы іх блёку ідзе на карысьць усім шкодніцкім і контррэволюцыйным арганізацыям.

Парторганізацыі Беларусі, шляхам далейшага ўзмацненьня свае работы па выкананьню чарговых гаспадарчых і культурных задач ударнага кварталу 1931 г., далейшага разгортваньня наступленьня па ўсім социялістычным фронце павінны забясьпечыць выкананьне лёзунгу партыі „пяцігодка ў чатыры гады“, суцэльная колектывізацыя да канца пяцігодкі і ліквідацыя на гэтай падставе кулацтва як клясы.

У адказ на паклёпы ўсіх опортуністых права-„левага“ блёку трэба яшчэ больш узмацніць барацьбу за генэральную лінію партыі, супроць яе скажэньняў; асноўны агонь барацьбы павінен быць накіраваны супроць правага ўхілу як галоўнай небясьпекі, рэцыдываў трацкізму і прымірлівых адносін да іх. Трэба яшчэ больш разгарнуць бальшавіцкую самакратыку, скарыстаўшы яе і для бязьлітаснай барацьбы з тымі, хто жадае скарыстаць самакрытыку і ўнутрыпартыйную дэмокрытыю для зрыву генэральнай лініі пары.

**Танхілевіч**

# ПЕРАВЫБАРЫ САВЕТАЎ

## Пад знакам наступленьня соцыялізму па ўсім фронце

*(да справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў)*

Справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў, зьяўляючыся важнейшай палітычнай кампаніяй, патрабуе выключнай увагі партыйных арганізацый. Тэрміны, што ўстаноўлены для правядзеньня перавыбараў, патрабуюць асабліва добра арганізаванай работы і ўцягненьня ў перавыбары ўсіх масавых грамадзкіх арганізацый, мобілізацыі мас працоўных гораду і вёскі на выкананьне кіруючых партыйных лёзунгаў, забесьпячэньня генэральнай лініі партыі ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце і ў правядзеньні самых перавыбараў.

**Справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў будзе праходзіць ва ўмовах разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце і значнага ўздыму творчай актыўнасьці рабочае клясы.** На базе суцэльнай колектывізацыі ліквідуецца кулацтва як кляса.

Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва выклікаюць супраціўленьне клясавых ворагаў, таму перавыбары саветаў будуць адбывацца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і павінны прайсьці пад знакам мобілізацыі працоўных мас на бязьлітасны адпор спробам кулацтва скарыстаць перавыбары ў сваіх шкодніцкіх мэтах.

Абвастрэньне клясавай барацьбы знаходзіць найбольш яскравае выражэньне і ў імкненьнях замежнай буржуазіі падрыхтаваць інтэрвэнцыю, каб сарваць соцыялістычнае будаўніцтва ў СССР. Выкрыцьцё шкодніцкай організацыі, якая працавала па заданьнях сусьветнай буржуазіі, кампанія барацьбы з савецкім экспортам і іншыя досыць вядомыя падзеі міжнароднага жыцьця—дастатковыя паказальнікі росту ваеннай небясьпекі. Адсюль у якасьці аднаго з важнейшых лёзунгаў справаздачна перавыбарчай кампаніі павінна зьявіцца **падвышэньне ўвагі да ўзмацненьня абароназдольнасьці Савецкага Саюзу.**

**Перавыбары саветаў павінны прайсьці пад знакам рашучай барацьбы за прамфінплян, павароту саветаў тварам да вытворчых задач і задач колгаснага будаўніцтва, пасьпяховага выкананьня бягучых гаспадарча-палітычных кампаній, разгорнутага наступленьня на капіталістычныя элемэнты. Гэта азначае, што ўсю падрыхтоўчую работу і правядзеньне перавыбараў саветаў неабходна правесьці так, каб яшчэ больш організаваць масы працоўных для выкананьня баявых задач соцыялістычнага будаўніцтва, для выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.**

У гэтай сувязі паўстае пытаньне аб узмацненьні і ажыўленьні саветаў, як органаў пролетарскай дыктатуры. У сучасных умовах асабліва рашуча высоўваецца пытаньне аб узмацненьні раённых установаў, бо раён цяпер зьяўляецца асноўным зьвяном соцыялістычнага будаўніцтва, і дырэктывы партыі аб узмацненьні раёнаў яшчэ ня ўсюды і ня так, як мае быць, выкананы.

Перавыбары саветаў неабходна выкарыстаць для ачышчэньня саветаў ад тых элемэнтаў, якія парушаюць клясавую лінію—ажыцьцяўляюць праваопортуністычную практыку, выконваючы ролю кулацкай агентуры, а таксама і ад усіх „левых“ загібшчыкаў. Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна садзейнічаць максымальнаму ўзмацненьню саветаў і пасьлядоўнаму правядзеньню імі ў практычнай дзейнасьці строгай клясавай лініі.

Усю сыстэму кіраўніцтва нашых цэнтральных установаў неабходна пераключыць на тое, каб дапамагчы непасрэдна ячэйцы і Райкому справіцца з важнейшымі задачамі перавыбараў. Партыйныя

організацыі павінны з пачатку і да канца забясьпечыць сваё кіраўніцтва перавыбарамі саветаў. Партыйнае кіраўніцтва перавыбарамі і далейшае, яшчэ больш рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты, організацыя новага колгаснага прыліву і ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі патрабуюць ад усіх зьвеньняў партыйнай організацыі строгага правядзеньня генэральнай лініі партыі. **Кіраваць усім грандыёзным соцыялістычным будаўніцтвам і такой важнейшай кампаніяй, як перавыбары саветаў, можна толькі пры ўмове рашучай барацьбы на два фронты: з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, і за ачышчэньне партыйных радоў ад праваопортуністычных элемэнтаў—кулацкай агентуры, барацьбы з рэшткамі контррэволюцыйнага трацкізму, з двурушніцтвам і здрадніцтвам права-„лявацкага" блёку.**

Пасьпяховае правядзеньне перавыбараў патрабуе ажыцьцяўленьня шэрагу важнейшых мерапрыемстваў, асноўныя з якіх заключаюцца ў наступным:

Трэба прыняць рэальныя меры да таго, каб забясьпечыць актыўны ўдзел у перавыбарах усіх зьвеньняў профсаюзнай організацыі і асабліва саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых. Партыйныя ячэйкі, намячаючы плян правядзеньня свае работы ў гэтай галіне, павінны ўлічыць неабходнасьць забесьпячэньня актыўнага ўдзелу профсаюзаў.

У якасьці асаблівай задачы неабходна паставіць прыцягненьне да выбараў у саветы **новых кадраў** рабочых і работніц. На профорганізацыі ўскладаецца адказьнейшая задача—узмацніць пролетарскі ўплыў перавыбарамі сельскіх саветаў. Па прыкладу мінулых гадоў павінны быць організаваны рабочыя брыгады, гэтыя сапраўды „інструктары клясавай барацьбы ў вёсцы". Задача вытворчых парт'ячэек—наладзіць дасканальную падрыхтоўку і інструктаж рабочых брыгад.

Комсамол можа і павінен прыняць вялікі ўдзел у справаздачна-перавыбарчай кампаніі і аказаць значную дапамогу парт'ячэйкам. Комсамольскія ячэйкі могуць значна дапамагчы падрыхтаваць перавыбары, стаць застрэльшчыкамі ажыцьцяўленьня мэтаў соцыялістычнага спаборніцтва ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце і ў правядзеньні перавыбараў (організацыя спаборніцтва паміж сельсаветамі і раёнамі на лепшую і большую яўку выбаршчыкаў, на ажыўленьне дзейнасьці сэкцыі савету, на лепшае выкананьне наказу і г. д.).

Перавыбары сельскіх саветаў будуць праходзіць пад лёзунгам організаванага прыліву ў колгасы і рашучай барацьбы з кулацтвам. Асабліва адказныя задачы ўскладаюцца на вясковую партыйную ячэйку. Разам з шэрагам іншых задач, у яе задачу будзе ўваходзіць організацыя батрацтва, беднаты і колгасьнікаў, як апоры рабочае клясы ў вёсцы, на актыўны ўдзел у перавыбарах і павялічэньне іх уплыву ў саветах. Таму трэба зьвярнуць максымум увагі на правядзеньне нарад батрацтва і беднаты, падрыхтоўку беднаты і колгасьнікаў у саюзе з серадняком для рашучага адпору кулацтву, на вылучэньне новых кандыдатур у склад сельсаветаў. Перавыбары сельскіх саветаў неабходна пічыльна ўвязаць з пасьпяховым правядзеньнем бягучых гаспадарча-палітычных кампаній (загатоўкі, мобілізацыя сродкаў, падрыхтоўка да вясновай сяўбы і інш.).

Умець на кожным факце даць адпор спробам кулацтва ізоляваць організаваную беднату ад асноўных мас сялянства і імкненьню ўзяць пад свой уплыў серадняка, выкрыць і адвесьці высоўваемага ў склад сельсавету падкулачніка, праз падвышэньне актыўнасьці беднаты,—вось адна з важнейшых задач вясковай партыйнай ячэйкі.

Неабходна ў якасьці аднэй з важнейшых задач паставіць задачу **падвышэньня актыўнасьці мас працоўных жанчын для ўдзелу ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі.** Ужо зараз работа дэлегацкіх сходаў павінна быць сконцэнтравана на пытаньнях перавыбараў саветаў. Вырашыць гэтую задачу можна пры тэй умове, калі ўся парторганізацыя (а ня толькі працаўнікі сярод жанчын) возьмецца за яе вырашэньне. Неабходна як і ў мінулыя гады зрабіць усё магчымае для прыстасаваньня часу выбарчых сходаў да ўмоў

работніц і сялянак (арганізацыя дзіцячых пакояў, брыгад нянек і г. д.).

Разам з тым у складзе сельсаветаў неабходна павялічыць склад жанчын і прыняць самыя рэальныя меры да замацаваньня жанчын на рабоце ў саветах.

Выбары ў саветы ў 1930-31 г. павінны даць падвышэньне ўдзельнікаў больш, чым у мінулыя гады. Для гэтай мэты неабходна прыняць належныя захады ў падборы лепшых памяшканьняў, дзе будуць адбывацца справаздачныя сходы, забясьпечыць сваячасовае апавяшчэньне выбаршчыкаў аб часе і месцы справаздачных і выбарчых сходаў. Школьнікі і піонэры ў гэтай справе могуць аказаць значную дапамогу. Разам з забесьпячэньнем гэтых арганізацыйных мерапрыемстваў, маючых вялікае значэньне, патрэбна палепшаньне ўсяе сыстэмы агітацыйна-масавай работы, ад якой галоўным чынам залежыць падвышэньне ўдзелу выбаршчыкаў у кампаніі.

У якасьці адней з важнейшых задач высоўваецца задача правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі сярод працоўных нацменшасьцяй. Праявы клясавай барацьбы сярод нацменшасьцяй будуць адбывацца ў сваясаблівых формах. Кулацтва і клерыкальныя элемэнты будуць імкнуцца супроцьставіць клясавай барацьбе адзіны нацыянальны фронт. Вось чаму тут патрабуецца асабліва дасканальная падрыхтоўка і найбольш правільнае кіраўніцтва. Перавыбары саветаў сярод нацменшасьцяй неабходна выкарыстаць для ўзмацненьня інтэрнацыянальнага выхаваньня і рашучай барацьбы супроць кулацтва і клерыкалаў, разгарнуць сваю дзейнасьць. Райкомы павінны вывучыць пытаньне аб магчымасьці пашырэньня колькасьці нацыянальных саветаў і прыняць меры да таго, каб лепш абслужыць працоўных нацменшасьцяй.

У выніку перавыбараў саветы павінны быць яшчэ больш узмоцнены і ачышчаны ад усіх опортуністычных і клясава-варожых элемэнтаў. Барацьба з бюрократызмам і засьмечанасьцю савецкага апарату ня можа быць пасьпяховай бяз шырокага разгортваньня крытыкі і самакрытыкі работы саветаў у часе іх перавыбараў. **Асноўным мерывам працаздольнасьці савету і правільнасьці яго лініі служыць тое, наколькі савет праводзіць вытрыманую клясавую лінію і выконвае наказы выбаршчыкаў.**

Асаблівага ўзмацненьня патрабуюць сельскія саветы. Іх становішча яшчэ не зьяўляецца здавальняючым. Нам неабходна прыняць усе меры да таго, каб павялічыць рабочую праслойку ў складзе сельскіх саветаў з ліку рабочых саўгасаў і дваццаціпяцітысячнікаў. Загадзя падрыхтаваць сакратарскі склад сельсаветаў, вылучыўшы на гэтую працу лепшых комсамольцаў, — вось важнейшая задача дня. У складзе гарсаветаў неабходна забясьпечыць значнае павялічэньне рабочых, якія працуюць непасрэдна на вытворчасьці.

**Перавыбары саветаў павінны прайсьці пад знакам разгорнутага соцыялістычнага наступленьня, карэннага павароту саветаў да задач барацьбы за промфінплян, за арганізацыю колгаснага прыліву і за выкананьне вытворчых задач рэконструкцыйнага пэрыоду.**

**Высоўваючы ў склад саветаў праверанных у клясавай барацьбе рабочых — ударнікаў і колгасьнікаў, батракоў, беднякоў і лепшых серадняков, мы павінны яшчэ больш узьняць барацьбу за бальшавіцкія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва—за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.**

Міх. Л.

# Перавыбары саветаў і задачы агітацыйна-масавай работы

Чарговыя выбары ў саветы будуць праходзіць ва ўмовах, якія значна адрозьніваюцца ад умоў мінулых перавыбараў і патрабуюць асабліва дасканальнай падрыхтоўкі і організаванага правядзеньня.

Сучасны пэрыод характарызуецца разгорнутым наступленьнем социялізму па ўсім фронце будаўніцтва, ростам вялізарнага ўздыму творчай актыўнасьці і энтузыязму мас працоўных, значнымі дасягненьнямі ў справе колектывізацыі сельскае гаспадаркі і, на аснове суцэльнае колектывізацыі, ліквідацыяй кулацтва як клясы. Лёзунг „пяцігодка ў чатыры гады", высунуты партыяй і рабочай клясай, пры напружаньні сіл і энэргіі рабочае клясы, з посьпехам ажыцьцяўляецца. Мы падыходзім да выкананьня рашаючага—трэцяга—году 5-годкі. Па шэрагу галін прамысловасьці пяцігодка выконваецца раней, чым за чатыры гады.

Посьпехі социялістычнага будаўніцтва выклікаюць шалёнае супраціўленьне аджываючых клясаў. Кулацтва ў вёсцы і буржуазна-нэпманаўскія пласты ў горадзе не здаюцца бяз бою. Яны імкнуцца скарыстаць усе сілы і магчымасьці для супраціўленьня наступальнаму ходу социялізму. Адсюль зразумела, што **перавыбары саветаў будуць праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы**.

Гэта абвастрэньне клясавай барацьбы ідзе як па лініі ўзаемаадносін клясаў унутры савецкай краіны, гэтак і па-за яе межамі.

Міжнародная буржуазія рыхтуецца да ўзброенага нападу на Савецкі Саюз: провокацыя вайны на Кітайска-Ўсходняй чыгунцы, шпіёнаж і шкодніцтва па ўказцы і пры шчыльным падтрыманьні міжнароднай буржуазіі, барацьба супроць савецкага экспорту—гэтыя, далёка ня ўсе пералічаныя факты, падначалены асноўнай задачы: праз узброены напад перашкодзіць социялістычнаму будаўніцтву Савецкага Саюзу.

Кулак, нэпман, шкоднік і ўсе іншыя антысавецкія элемэнты будуць імкнуцца скарыстаць перавыбары саветаў для таго, каб працягнуць у саветы сваіх агентаў і падарваць моцнасьць саветаў, органаў дыктатуры пролетарыяту.

Таму перавыбары саветаў павінны прайсьці пад лёзунгам далейшага ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны і падвышэньня клясавай пільнасьці ўсіх нашых організацыі. **Задача партыйных організацый — правесьці перавыбары саветаў пад лёзунгам узмацненьня актыўнасьці беднаты і колгасьнікаў у саюзе с серадняком для рашучай барацьбы з кулацтвам і яго ліквідацыі на аснове суцэльнае колектывізацыі.**

Бязьлітасная барацьба партыйных організацый з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, рашучае ачышчэньне сваіх шэрагаў ад кулацкай агентуры, праваопортуністычных элемэнтаў, барацьба з рэшткамі контр-рэволюцыйнага троцкізму, з двурушніцтвам і здрадніцтвам правых і „левых" опортуністых зьяўляюцца неабходнай умовай ажыцьцяўленьня правільнага кіраўніцтва перавыбарамі саветаў. Разам з тым патрабуецца рашучая барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам, найбольш небясьпечным зараз, з беларускім нацыянал - дэмократызмам, агентам інтэрвэнтаў, і ўсімі шовінізмамі іншых нацыянальнасьцяй.

Важнейшай і безадкладнай задачай зьяўляецца ачышчэньне саветаў ад усіх тых, хто на практыцы ажыцьцяўляе

правы опортунізм, чым фактычна выконвае „соцыяльны заказ“ кулацтва, а таксама ад працаўнікоў, якія скочваюцца да „левых“ загібаў у адносінах да серадняцкіх мас сялянства.

Перавыбары саветаў не зьяўляюцца такой „кампаніяй“, якая адсоўвае на задні плян выкананьне ўсіх іншых гаспадарча-політычных мерапрыемстваў і кампаній. Наадварот, уся падрыхтоўчая работа да перавыбараў павінна прайсьці пад лёзунгам яшчэ большага разгортваньня творчай энэргіі працоўных для выкананьня бальшавіцкімі тэмпамі пяцігодкі ў чатыры гады, пасьпяховага выкананьня бягучых гаспадарча-політычных кампаній, зьявіцца магутным сродкам мобілізацыі мас на актыўны ўдзел у разгорнутым соцыялістычным будаўніцтве.

**Ліквідацыя прарываў прамфінплянаў у прамысловасьці, рашучая барацьба з опортуністычнай стаўкай на самацёк у колгасным руху і організацыя новага колгаснага прыліву, барацьба з усімі перашкодамі колгаснаму прыліву**—вось баявыя лёзунгі, вакол выкананьня якіх неабходна організаваць працоўныя масы ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў.

І, нарэшце, важнейшая задача—гэта ўмацаваньне саветаў. **Справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў павінна прайсьці пад лёзунгам замацаваньня саветаў, рашучага павароту іх да конкрэтных і баявых задач соцыялістычнага будаўніцтва.** Ліквідацыя акруг ставіць перад перавыбарамі саветаў задачу асаблівага ўзмацненьня дзейнасьці райвыканкомаў і сельскіх саветаў, устанаўленьня ў іх дзейнасьці цьвёрдай пролетарскай лініі, ператварэньня саветаў у сапраўды кіруючыя органы пролетарскай дыктатуры.

Вось важнейшыя задачы справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў.

Правядзеньне перавыбараў саветаў павінна заняць выключнае месца ў рабоце партыйнай організацыі і ўскладае на ўсю сыстэму агітацыйна-масавай работы вялізарныя задачы. Неабходна пабудаваць работу так, каб сваячасова растлумачыць кожнаму комуністу, рабочаму, комсамольцу, колгасьніку, бедняку і серадняку важнасьць і значэньне перавыбараў і прыцягнуць да ўдзелу ў перавыбарах усю пролетарскую грамадзкасьць (профсаюзы, комсамол, дэлегатак), мобілізаваць увагу грамадзкасьці на практычнае ажыцьцяўленьне лёзунгаў перавыбараў.

У перавыбарах саветаў рашаючае значэньне будзе мець уменьне правесьці шырокую агітацыю сярод мас і організацыю іх, умелае скарыстаньне ўсіх „прывадных пасоў“ да партыі, захаваньне ва ўсёй агітацыйна-масавай рабоце генэральнай лініі партыі.

Профсаюзы павінны прыняць самы актыўны ўдзел у справаздачна-перавыбарчай кампаніі. Асабліва вялікая і адказная задача ўскладаецца на саюз сельска-гаспадарчых і лясных рабочых. Асноўнай формай зьяўляюцца рабочыя брыгады, якія выяжджаюць у вёскі. Неабходна дасканальна інструктаваць і падрыхтаваць іх. Акрамя таго, вялізарную работу неабходна правесьці і ў горадзе.

Вось што, напрыклад, рабілі профсаюзы Ленінграду ў мінулыя гады: **на ўсіх прадпрыемствах, у рабочых клюбах, дамох культуры і чырвоных куткох была арганізавана шырокая масавая работа. Культаддзел выдаў шэраг популярных брошур, зроблены плякаты, літаратурныя і музычныя монтажы. У часе абедзеных перапынкаў на прадпрыемствах організоўваюцца жывыя газэты, якія ў мастацкай форме перадаюць матар'ялы аб перавыбарах. Па клюбах былі організаваны выстаўкі, якія адлюстроўвалі дасягненьні соцыялістычнага будаўніцтва.**

Комсамол, згодна практыцы мінулых гадоў, павінен правесьці сярод рабоча-сялянскай моладзі вялікую масавую работу па згуртаваньню мас рабоча-сялянскай моладзі вакол лёзунгаў партыі, мобілізаваць „лёгкую кавалерыю“, разгарнуць даведачную работу, організаваць карнавалы і забясьпечыць іншую мастацкую работу, прыцягнуць да выкананьня гэтае работы піонэраў і школьнікаў і, урэшце, актыўна ўдзельнічаць на справаздачна-перавыбарчых сходах—вось задачы комсамолу.

Таварыства „Прэч няпісьменнасьць“ павінна паставіць перад сабой задачу

прыцягнуць да перавыбараў масы нyпісьменных, коопэрацыя павінна забясьпечыць удзел у перавыбарах свайго актыву.

Белдзяржкіно ўжо зараз, праз сваю сетку ўстаноў і кіно-перасовак, неабходна адлюстраваць лёзунгі партыі па перавыбарах саветаў, паклапаціцца аб выданьні каротка-мэтражных фільм, у сваіх кіночасопісах паказаць работу лепшых саветаў і іх працаўнікоў.

Неабходна ва ўсю шырыню паставіць пытаньне аб прыстасаваньні мастацка-масавай работы да перавыбараў саветаў. Тэатры, кіно, сіняя блюза, радыё, літаратурныя гурткі ў сваей рабоце павінны ўлічыць неабходнасьць самага актыўнага ўдзелу ў перавыборах саветаў. Трэба рашуча паставіць пытаньне аб перабудове работы рабочых клюбаў, аб іх актыўным удзеле ў падрыхтоўцы і правядзеньні перавыбарчай кампаніі саветаў. У народных дамох, хатах-чытальнях трэба разгарнуць шырокую даведачную работу, мастацкі прывабіць кожнага працоўнага да лёзунгаў партыі па перавыбарах саветаў.

**Посьпех правядзеньня перавыбараў у значнай меры залежыць ад таго, наколькі кожная грамадзкая організацыя зможа пераключыць сваю ўвагу на мобілізацыю свае масы для актыўнага ўдзелу ў перавыбарах саветаў.**

Возьмем для прыкладу такое важнейшае мерапрыемства, як падрыхтоўка перавыбараў сельскіх саветаў. Адным з асноўных лёзунгаў перавыбараў зьяўляецца організацыя новага колгаснага прыліву. Дзеля таго, каб садзейнічаць гэтаму прыліву, неабходна шырока популярызаваць дасягненьні колгасаў. Таму неабходна найбольш уважліва падыйсьці да організацыі справаздач колгасаў на раённых зьездах саветаў, загадзя падрыхтаваць належныя дыяграмы і іншыя навочныя матар'ялы, організаваць да раённага зьезду саветаў шырокую выстаўку дасягненьняў колгаснага будаўніцтва ў раёне. Вось формы работы, якія маюць ня толькі вузка практычны сэнс, але і політычнае значэньне.

Да перавыбараў будуць праводзіцца раённыя нарады батрацка-бядняцкіх груп і колгасьнікаў. Гэтыя нарады маюць сваёй задачай падрыхтаваць масы батрацтва, беднаты і колгасьнікаў для актыўнага ўдзелу ў кампаніі. Неабходна ўсю работу пабудаваць так, каб дасканальна падрыхтаваць нарады (своечасова абвясьціць, правесьці падрыхтоўчыя сходы ў сельсаветах) і дасягнуць неабходных політычных вынікаў.

Вялікую ўвагу неабходна зьвярнуць на складаньне наказаў новым саветам. Трэба катэгорычна адмовіцца ад агульных „для всех времен и всех народов" пунктаў у наказах. Новы наказ трэба складаць на аснове праверкі выкананьня старога, з яснай політычнай установкай, адпавядаючай генэральнай лініі партыі, будаваць наказ так, каб ён фактычна зьяўляўся плянам работы для новага савету.

Мы ня спыняемся на шэрагу форм работы, улічваючы тое, што практыку мінулых гадоў неабходна шырока скарыстаць для правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі гэтага году. **Неабходна стварыць такія ўмовы работы, каб кожнае новае і карыснае пачынаньне ў агіт-масавай рабоце падхаплялася, заахвочвала і атрымоўвала максымальна шырокае распаўсюджаньне.**

Л. Лібэнзон

# Задачы падрыхтоўкі працоўных жанчын да перавыбараў саветаў і вылучэньня на кіраўнічую работу ў саветы

Зусім бясспрэчны той факт, што значна ўзрасьлі роля і значэньне працоўных жанчын гораду і вёскі ў гаспадарча-політычным жыцьці нашай краіны на даным этапе разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта неаднакроць падкрэсьлівалася ў шэрагу партыйных пастаноў па пытаньні аб рабоце сярод працоўных жанчын. Адгэтуль і тое вялікае значэньне, якое партыя надае гэтаму вучастку працы. XVI зьезд УсеКП(б) абавязаў усе партыйныя, профэсіянальныя, савецкія і інш. організацыі ўзмацніць сваю работу па мобілізацыі шырокіх мас працоўных жанчын, асабліва на вёсцы, на разгортваньне соцыялістычнага будаўніцтва.

Практыка работы па ажыцьцяўленьню асноўных гаспадарча-політычных мерапрыемстваў (колектывізацыя, сяўба, загатоўкі, разгортваньне асобных галін сельскай гаспадаркі, жывёлагадоўля, ільнаводзтва і г. д.), а таксама па выкананьню прамфінпляну і зьнішчэньню ўсіх недахопаў у прамысловасьці,—усе гэтыя мерапрыемствы нельга пасьпяхова правесьці без актыўнага ўдзелу працоўных жанчын, дзякуючы таму, што ўзрасла ўдзельная вага жаночай рабочай сілы ў прамысловасьці і ў колектыўнай гаспадарцы, у прыватнасьці, у яе асобных галінах (жывёлагадоўля, ільнаводзтва і г. д.)

У сувязі з агульным ростам і актывізацыяй рабочае клясы і працоўнага сялянства значна ўзрасла і актыўнасьць працоўных жанчын. Зараз цяжка знайсьці прадпрыемства і вёску, дзе-б жанчына стаяла ў баку ад гаспадарча-політычнага жыцьця, дзе-б жанчына адносілася „абыяк“ да мерапрыемстваў партыі і ўлады. Рост актыўнасьці і сьвядомасьці жанчын асабліва паказалі апошнія перавыбарчыя дэлегацкія сходы.

У тых выпадках, калі была праведзена добрая падрыхтоўчая праца да выбарчых сходаў, на сходы зьявілася 80-90 проц. жанчын, і ў большасьці выпадкаў жанчыны самі патрабавалі, каб сярод іх вялі сталую работу. Аднак у сваёй масе жанчына яшчэ адстае ад гаспадарча-політычных задач, асабліва на вёсцы. Калі мы падыходзім да правядзеньня важнейшай політычнай кампаніі, якую становяць перавыбары саветаў, і пасьпяховасьць якой залежыць ад таго, наколькі будуць уцягнуты масы, дык пытаньне аб падрыхтоўцы і ўцягненьні працоўных жанчын у гэтую кампанію павінна заняць адпаведнае месца ў працы партыйных, профэсіянальных, савецкіх і інш. організацый.

Уся масавая падрыхтоўчая праца сярод працоўных жанчын павінна быць шчыльна ўвязана з чарговымі гаспадарча-політычнымі задачамі і праходзіць пад знакам мобілізацыі моцы і энэргіі работніц і працоўных сялянак на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, шляхам організацыі выкананьня прамфінпланаў, організацыі новага ўздыму колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, узьняцьця новай хвалі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцкага руху сярод жанчын.

У перавыбарчай кампаніі трэба дабіцца організацыі новых ударных брыгад работніц, колгасьніц, замацаваньня работніц на вытворчасьці, організацыі новых колгасаў і г. д. У справе правядзеньня шэрагу мерапрыемстваў па актывізацыі і ўцягненьню жанчын у перавыбарчую кампанію вялізарную ролю павінны адыграць дэлегацкія сходы.

Партыйным арганізацыям неабходна ўсямерна ўзмацніць арганізацыйнае і політычнае кіраўніцтва дэлегацкімі сходамі, каб яны сапраўды былі тымі ўдарнымі брыгадамі, пры дапамозе якіх партыя прывядзе ў рух шырачэйшыя масы працоўных жанчын гораду і вёскі і ўцягне іх у социялістычнае будаўніцтва.

Кулацтва і іншыя варожыя элемэнты, бязумоўна, спрабуюць скарыстаць адсталую частку жанчын у мэтах зрыву перавыбараў і правядзеньня сваіх кандыдатур. Там, дзе масавая работа сярод жанчын пастаўлена слаба, кулацтву ня раз удавалася зрабіць свой уплыў на частку бяднячак, якія выступалі ў ролі кулацкіх падпявалаў супроць мерапрыемстваў партыі і ўлады. Гэта абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі зьвярнуць асаблівую ўвагу на разгортваньне масавай падрыхтоўчай працы, на ўзьняцьце і замацаваньне актыўнасьці ўсіх працоўных жанчын у час перавыбараў саветаў. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на падрыхтоўку работніц, батрачак, бяднячак і колгасьніц для арганізаванага і рашучага адпору ўсялякім спробам клясавага ворага зрабіць свой уплыў на працоўных жанчын, а таксама ўсялякім спробам права-„лявацкіх“ вылазак.

Недаацэнка ўсяе важнасьці падрыхтоўкі і арганізацыі працоўных жанчын да перавыбараў саветаў будзе на руку клясаваму ворагу і дапаможа яму ў яго шкодніцкай працы супроць социялістычнага будаўніцтва. Паасобныя зьвеньні нашай партыі, асабліва нізавыя зьвеньні і паасобныя працаўнікі, не зразумелі ці ня хочуць зразумець, што без актыўнага ўдзелу працоўных жанчын не магчыма пасьпяхова правесьці ніводнай гаспадарча-політычнай кампаніі.

Партыйным арганізацыям трэба з усёй рашучасьцю змагацца з момантамі опортуністычнай недаацэнкі важнасьці працы па ўцягненьню працоўных жанчын у перавыбары саветаў і вылучэньню работніц, батрачак, колгасьніц і бяднячак на кіруючую працу ў саветы.

Апошнія перавыбары саветаў далі значны рост актыўнасьці працоўных жанчын; яўка жанчын на перавыбарчыя сходы дасягала 42 проц. да ліку выбаршчыц (у сельскіх мясцовасьцях), а частковыя перавыбары сельсаветаў у 1930 г. далі 52,2 проц. удзелу жанчын да ўсіх выбаршчыкаў. Значна павялічылася колькасьць жанчын у складзе саветаў і на кіруючай працы, напрыклад: у 1927 г. членаў саветаў жанчын было 1725—7,2 проц., у 1929 г.—8492 ч.—19,6 проц.; у местачковых саветах ў 1927 г.—95 ч.—12,5 проц., у 1929 г.—435 ч.—26 проц.; УРВК—172 ч.—9,6 проц. (1927 г.), а ў 1929 г.—994 ч.—19,3 проц.; старшынь сельсаветаў было 122 асобы, альбо 7,4 проц., старшынь РВК—5 асоб, старшынь гарсаветаў—3.

Аднак гэтыя дасягненьні ня былі практычна замацаваны. Адпаведныя арганізацыі недастаткова займаліся дзелавой падрыхтоўкай членаў саветаў; большасьць апошніх ня мела конкрэтнай практычнай нагрузкі, і нават ня ўсе члены саветаў ліквідавалі сваю няпісьменнасьць. Вылучэнкам ня было аказана дастатковай практычнай дапамогі ў іх працы, мелі месца выпадкі компромэтацыі з боку кулацтва клясава-вытрыманых сялянак — старшынь сельсаветаў. Клясавы вораг на гэтым вучастку незаўсёды сустракаў рашучы адпор. Былі выпадкі, калі асобных старшынь сельсаветаў прыходзілася зьнімаць з прычыны кепскага падбору кандыдатур. У выніку ўсяго гэтага ў сучасны момант мы маем такое становішча, калі на пасадзе старшынь сельсаветаў засталося ўсяго 64 жанчыны, на пасадзе старшынь РВК засталася ўсяго адна жанчына, а на пасадзе старшынь гарсаветаў не засталося ніводнай.

Партыйныя арганізацыі зараз жа павінны сур‘ёзнейшым чынам заняцца пытаньнем вылучэньня і падрыхтоўкі адпаведных кандыдатур як у члены сельсаветаў, так і на кіруючую працу ў саветы з ліку актывістак, асабліва дэлегатак-ударніц, работніц, батрачак, колгасьніц, бяднячак і сераднячак. Такі актыў ў нас, бязумоўна, ёсьць, але-ж мы незаўсёды яго ведаем і незаўсёды ўмеем яго выяўляць.

У мэтах выяўленьня актыву і падрыхтоўкі працоўных жанчын для актыўнага

ўдзелу ў перавыбарах неабходна шырока скарыстаць усе мэтоды і формы масавай работы, асабліва такія формы, як дэлегацкія сходы, групы беднаты і батрацтва, асобныя нарады, конфэрэнцыі работніц, батрачак і колгасьніц і г. д., уключыўшы ў пытаньні аб перавыбарах саветаў і задачы жанчыны ў гэтай кампаніі. Жаночыя нарады трэба практыкаваць ня толькі ў раёнах, але непасрэдна і ў сельсаветах, што, бязумоўна, дасьць магчымасьць ахапіць больш жанчын падрыхтоўчай працай.

Жаночы актыў, і асабліва дэлегатак, неабходна найбольш скарыстоўваць для організацыі практычных мерапрыемстваў, што дасьць магчымасьць работніцам, колгасьніцам, бяднячкам, батрачкам і сераднячкам наведваць перавыбарчыя сходы шляхам організацыі часовых дзіцячых пакояў, ясьляў і г. д. У організацыі гэтых мерапрыемстваў трэба дабіцца непасрэднага ўдзелу коопэрацыйных, савецкіх, профсаюзных, шэфскіх і інш. грамадзкіх організацый.

**Толькі пры ўмовах поўнай зацікаўленасьці ўсіх партыйных, профсаюзных, савецкіх організацый будзе забясьпечана выкананьне дырэктывы ЦК КП(б)Б аб падвышэньні актыўнасьці жанчын у перавыбарчай кампаніі і рашучым вылучэньня работніц і працоўных сялянак на кіруючую працу ў саветы і ў члены саветаў.**



# Партасьвета і кампанія перавыбараў саветаў

Пастановы Цэнтральнага Комітэту ЎсеКП(б) і КП(б)Б „аб задачах партыйнай асьветы“ патрабуюць ад парторганізацыі, побач з падвышэньнем марксысцка-ленінскага ўзроўню, забесьпячэньня найбольшай сувязі партыйнай вучобы з практычнымі задачамі партыі. У сваім лісьце аб разгортваньні партвучобы тав. Стэцкі высоўвае гэты момант, які павінен зрабіць рашучы пералом ва ўсіх зьвеньнях сеткі партыйнай асьветы. Зусім зразумела, калі мы ставім партвучобу не абстрактна, не разрываем з жыцьцём, а ўвязваем яе з практычнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, дык гэта дапамагае ператварэньню партсеткі ў зброю мобілізацыі мас на правядзеньне важнейшых політычных і гаспадарчых кампаній.

Такім чынам, роля партасьветы, як баявой зброі партыі на фронце барацьбы за генэральную лінію партыі, зьяўлялася заўсёды вельмі важнай, а ў сучасны момант партвучоба набывае надзвычайна вялікае значэньне.

Чарговая кампанія перавыбараў саветаў, акая будзе праходзіць у пачатку трэцяга году пяцігодкі, ва ўмовах разгорнутага на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва і абвастрэньня клясавай барацьбы ў краіне, мае выключнае політычнае значэньне. Вось таму сетка партасьветы павінна своечасова мобілізаваць свае сілы, а таксама сілы беспартыйнага рабочага, колгаснага і бядняцка-серадняцкага актыву вакол гэтай кампаніі.

Правядзеньне перавыбарчай кампаніі саветаў павінна быць зьвязана раней за ўсё з растлумачэньнем тых асноўных палажэньняў ленінскага разуменьня савецкае дзяржавы, якая зьяўляецца новым тыпам гаспадарчай формы, прынцыпова процілеглым у параўнаньні з буржуазным па сваёй клясавай існасьці і па сваёй унутранай структуры.

**„Характэрныя рысы савецкай улады ў тым, што савецкая ўлада зьяўляецца найбольш масавай, найбольш дэмократычнай дзяржаўнай організацыяй з усіх магчымых дзяржаўных організацый ва ўмовах існаваньня клясаў, у тым, што савецкая ўлада зьяўляецца найбольш інтэрнацыялістычнай з усіх дзяржаўных організацый клясавай грамады“. (Сталін).**

Саветы, рост якіх абумоўліваецца самым шырокім масавым рухам працоўных, забясьпечаць найбольшую актыўнасьць мас і бязумоўна найбольшыя гарантыі канчатковай перамогі.

І Ўладзімер Ільліч неаднакроць паказваў, **што толькі ў саветах маса эксплёатуемых пачынае сапраўды вучыцца стварэньню новага грамадзкага жыцьця.** Гэтага асноўнага Ленінскага вучэньня не разумеюць опортуністыя ўсіх колераў.

Трацкістыя, якія адмаўляюць магчымасьць пабудовы соцыялізму сіламі рабочае клясы і сялянства, праяўляючы абсолютнае няверства ў соцыялістычнае будаўніцтва, ня могуць зразумець таго, што саветы, будучы масавай формай, пад кіраўніцтвам пролетарыяту, уцягваюць у будаўніцтва соцыялізму самыя шырокія масы працоўных.

З другога боку, правыя опортуністыя, якія адмаўляюць клясавую барацьбу, выходзячы з тэорыі „ўрастаньня кулака ў соцыялізм“, ня могуць зразумець існасьці дэмократыі працоўных мас, дэмократыі, накіраванай супроць эксплёататараў.

Гэта паказвае нам, наколькі несумяшчальны погляды гэтага опортуністычнага ўхілу з генэральнай лініяй партыі, якія ўшчэнт разьбіваюцца самім жыцьцём.

Роля саветаў у сучасных умовах разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце, у момант напружанай

клясавай барацьбы ўзрастае яшчэ больш. Лёзунг—саветы тварам да індустрыялізацыі краіны, тварам да колгаснага руху і социялістычнай перабудовы вёскі і да вырашэньня задачы ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі—вызначае конкрэтныя задачы саветаў на даным этапе. Узрастаючая роля саветаў на даным этапе рашуча адмаўляе тэорыю аб ліквідацыі саветаў, як органу дыктатуры пролетарыяту і замены іх новымі організацыямі, напрыклад, колгасамі. Партыя дала адпор гэтым спробам, кваліфікаваўшы іх як антысавецкія, як адбіваючыя наступ нашых клясавых ворагаў, якія імкнуцца падарваць дыктатуру пролетарыяту і паслабіць сілу яго органаў. Сетка партасьветы павінна быць добра азнаёмлена з тым, у чым зьмяшчаецца памылковасьць гэтага пункту погляду, і як правільна трэба вырашаць гэта пытаньне.

Неабходна з усёй рашучасьцю ўзяцца за ўзмацненьне нізавога савецкага апарату, за ажыўленьне работы саветаў, як органаў змычкі рабочае клясы с сялянствам. Уся сетка партыйнай асьветы, уключаючыся ў дапамогу правядзеньня кампаніі перавыбараў саветаў, папярэдне ў школах прапрацаваўшы дэталёва матар'ял, павінна даць лепшы паказ правядзеньня лініі і задач партыі ў гэтай кампаніі.

Пасьпяховасьць правядзеньня вялізарных задач партыі ў перавыбарчую кампанію будзе залежаць ад своечасовасьці і вельмі дасканальнай організацыйна-політычнай падрыхтоўкі школ усіх відаў партсеткі (першапачатковыя, СПШ, ВСПШ, прадметныя гурткі і г. д.).

Павінны быць вывучаны памылкі мінулай перавыбарчай кампаніі з тым, каб пазбавіцца іх паўтарэньня ў надыходзячую перавыбарчую кампанію.

Важнейшая задача школ — дапамагчы партыі мобілізаваць на перавыбары саветаў усю актыўнасьць працоўных мас пад лёзунгамі **выкананьня промфінпляну другога і трэцяга году пяцігодкі, разгортваньня социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, выкананьня і перавыкананьня пляну хлебазагатовак, бульбазагатовак, лесасплаву і г. д. і далейшага наступу на капіталістычныя элемэнты, узмацненьня раёна ў як асноўнага зьвяна, барацьбы за культурнае будаўніцтва, барацьбы за ажыцьцяўленьне ленінскай лініі ў нацыянальным пытаньні супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі, супроць мясцовага шовінізму і прымірэнцтва да яго, супроць контррэволюцыйнага нацыянальнага дэмократызму.**

Школы павінны быць гатовы даць належны адпор клясаваму ворагу, бо вораг ня дрэмле, і там, дзе яму не даюць адпору, знаходзіць глебу для свайго ўзрастаньня і магчымасьць прабрацца ў дзяржапарат для правядзеньня варожай нам лініі.

Усяляк выкрываючы клясавага ворага, трэба забясьпечыць выбары ў саветы лепшых ударнікаў на вытворчасьці, колгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў. Для гэтага школам неабходна дапамагчы партыі організаваць беднату, батрацтва і колгасьнікаў для актыўнага ўдзелу ў перавыбарах. Пры гэтым ні на сэкунду ня трэба забывацца і на серадняка, адзінаасобніка, прыцягваючы яго да актыўнага ўдзелу ў выбарчых органах. Акрамя таго, у справаздачах саветаў, з пункту погляду жорсткай самакрытыкі, неабходна дабіцца рэальнага высьвятленьня наказаў выбаршчыкаў данага прадпрыемства, з пункту погляду іх удзелу, як організатараў, у социялістычным спаборніцтве, ударніцтве, і мобілізацыі мас для выкананьня і перавыкананьня промфінпляну.

Вялікае значэньне будзе мець масавая работа ў сувязі з перавыбарамі; апошняя павінна садзейнічаць самаму шырокаму азнаямленьню працоўных з задачамі трэцяга году пяцігодкі, цяжкасьцямі, што стаяць на шляху социялістычнага будаўніцтва, з мерамі іх перамогі.

**Гэта азнаямленьне павінна быць ня голым азнаямленьнем, а накіраваным на рэальную актыўнасьць пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, за далейшае выкананьне пляну і разгортваньне суцэльнай колектывізацыі.**

Наогул поле дзейнасьці ў гэтай кампаніі для школ і асобных слухачоў сеткі партасьветы вельмі вялікае.

Практычная работа сеткі партасьветы зьмяшчаецца ў лепшым правядзеньні перавыбараў саветаў; формы дапамогі партыі могуць быць вельмі рознастайнымі. Як ужо сказана вышэй, трэба раней за ўсё папярэдне дасканала прапрацаваць матар'ялы ў сябе ў школах, гуртку. Пры прапрацоўцы тэмы „Саветы на новым этапе социялістычнага будаўніцтва", падыходзячы да практычных задач, для азнаямленьня папярэдне з работай мясцовага савету можна запрасіць на занятк і членаў сельсавету, старшыню і г. д., а потым скласьці конкрэтны плян удзелу ў перавыбарчай кампаніі.

Могуць быць уключаны пытаньні складаньня з слухачоў груп па праверцы выкананьня наказаў, збору прапаноў да новых наказаў, абсьледваньні работы сэкцыі саветаў. У работу трэба ўцягнуць усіх слухачоў і такім чынам даць магчымасьць парторганізацыям зрабіць правільную расстаноўку сіл.

Разгарнуць шырокую работу ў колгасах і саўгасах, якія будуць зьяўляцца апорнымі пунктамі для ячэек агітатараў і дапаможніка.

Школы павінны паставіць задачу — уцягнуць усіх слухачоў школы ва ўдарныя брыгады і соцыялістычнае спаборніцтва.

Якасьць работы тае ці іншае школы павінна вымярацца тым, наколькі гэтая школа сапраўды ўключылася ў перавыбарчую кампанію, у якой меры слухачы школы сумелі на ўласным прыкладзе паказаць свой удзел за выкананьне прамфінпляну і г. д.

Посьпехі трэцяга году пяцігодкі могуць быць забясьпечаны толькі пры актыўным ўдзеле самых шырокіх мас працоўных ва ўсім соцыялістычным будаўніцтве.

Вось чаму ў наступную перавыбарчую кампанію саветаў павінна быць прыкована ўся ўвага гарадзкіх і вясковых партыйных школ. Трэба скарыстаць гэтую кампанію для ўзмацненьня ролі саветаў і разьвіцьця іх масавай работы. Тут павінна быць самая шчыльная ўвязка партыйнай вучобы з практычным выконваньнем задач партыі ў перавыбарах саветаў, бяз зрыву вучобы бяз дзёрганьня.






# З ПРАКТЫКІ МЕСЦ

Гутман

## Аб працы Асарэвіцкай (колгаснай) ячэйкі КП(б)Б

Асарэвіцкая ячэйка лічыцца колгаснай, але ж з 6 членаў партыі толькі 2 працуюць ў колгасе, а астатнія 3 працуюць у раённым цэнтры за 25 клм. ад ячэйкі, і 1 працуе ў якасьці загадчыка хатычытальні ў другім сельсавеце.

З 8 кандыдатаў партыі працуюць ў колгасе 5 кандыдатаў КП(б)Б, а 2 кандыдаты КП(б)Б знаходзяцца ў другім колгасе на тэрыторыі прымежнага сельсавету. За апошні год ячэйка прыняла 8 новых кандыдатаў КП(б)Б з складу членаў колгасу. Трое з прынятых у партыю колгасьнікаў—былыя батракі. Акрамя гэтага, **у ячэйцы ёсьць яшчэ заявы аб прыёме ў кандыдаты КП(б)Б з другіх колгасаў, але ж у іх няма паручнікаў, і ячэйка КП(б)Б ніякіх захадаў ня прыняла, каб дапамагчы ім у гэтым, а на тэрыторыі таго ж сельсавету няма членаў КП(б)Б**. Нічога таксама ня зроблена ячэйкай у галіне выхаваньня прынятых у кандыдаты КП(б)Б. Наогул політвыхаваўчая праца ў ячэйцы амаль адсутнічае, да гэтага часу яшчэ не прапрацаваны ячэйкай пастановы XVI зьезду УсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б.

Сэкратаром ячэйкі абраны адзін з 2 членаў КП(б)Б, працуючых у колгасе, партстаж яго з 1928 году. Быў ён асуджаны на 6 месяцаў ўмоўна за недахоп грошай, пры чыстцы партыі атрымаў суровую вымову з папярэджаньнем, акрамя гэтага, за зьбіеньне жонкі атрымаў яшчэ адну суровую вымову і быў асуджаны на 2 тыдні пазбаўленьня волі.

Колгас Асарэвіцкі, дзе знаходзіцца гэтая ячэйка КП(б), ахапляе 2 з 4 залюднёных пунктаў, у Асарэвіцкім сельсавеце Камарынскага раёну, былой Гомельскай акругі. Усяго на тэрыторыі гэтага сельсавету 340 гаспадарак, з іх у колгасе 113, што складае 33,2 проц. усіх гаспадарак гэтага сельсавету Акрамя гэтага, у колгасе ёсьць яшчэ 15 адзіночак.

Дапусьціўшы цэлы шэраг „левых" заскокаў вясною 30 г., у час пашырэньня колгасу, ячэйка КП(б)Б, выпраўляючы гэтыя памылкі, не зварочвала ўвагі на барацьбу з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай, і часта бывае, што ячэйка дапушчае цэлы шэраг фактаў праваопортуністычных дзеяньняў на практыцы ў працы колгасу. Выявілася гэта ў наступным: ячэйка ніякай барацьбы не вядзе супроць таго, што большасьць колгасьнікаў за летні час, з прычыны таго, што ў колгасе не хапае рабочых рук, самі пачалі даглядаць свае былыя коні, і кожны з іх працуе на сваіх былых конях, у выніку чаго дэ-юрэ абагуленыя коні, вазы і збруя знаходзяцца фактычна ў індывідуальным карыстаньні кожнага колгасьніка, асабліва заўважана гэта ў адносінах да валоў, якіх паасобныя колгасьнікі забіраюць з колгаснага статку і прадаюць на рынку. Амаль нічога ня зроблена колгасам у галіне абагуленьня кароў, а ў колгасе ёсьць члены, якія маюць 4 5 кароў і ніводнай не абагулілі; дапушчаюцца факты разбазарваньня жывёлы асобнымі колгасьнікамі. Ячэйка КП(б)Б зусім ня ўлічвае таго, што колгас зьяўляецца жывёлагадоўчым, і неабходна праводзіць пасіленую працу па стварэньню абагуленага стада буйнай рагатай жывёлы. У колгас дапушчаны млынары, якія нават да гэтага часу ня здалі саіх млынаў колгасу і, знаходзячыся ў колгасе, працуюць у сваіх млынох.

Ячэйка КП(б)Б зусім не рэагавала на той факт, што ў чэрвені м-цы г. г. на сход колгасьнікаў зьявілася жонка кулака, якая была выслана і самавольна зьвярнулася назад; гэтая кулачка на

агульным сходзе колгасьнікаў зьвярнулася з просьбай да сходу, каб ёй зьвярнулі карову, якую ў яе забралі ў час раскулачваньня. Сход колгасьнікаў пастанавіў зьвярнуць ёй гэтую карову. Гэтая пастанова сходу назаўтра ж была выканана Праз кароткі час на паседжаньні праўленьня колгасу разглядалася ўжо заява гэтай кулачкі аб адводзе ёй пасеву жыта. На гэтым паседжаньні праўленьня прадстаўнік з якойсьці акруговай установы Лубнеўскі выступіў з наступнай прамовай, зафіксаванай ў протоколе:

**„Так як у час высылкі кулака как класс попала беднячка, вышэдшая яшчэ толькі $1^1/_2$ гады за кулака і таксама высланая і потым зьвярнулася, то неабходна ей помочь. Предложить Малевич Хотиме подать заявление о разводе з мужем, а также ў колгас“. Пастанавілі: „Адвесьці площадь пасеву жыта кулацкага на мешок пудов 6 Малевич Хотиме“.(Протокол праўленьня колгасу № 24 ад 12-га ліпеня г. г.).**

Ніводнага выступленьня супроць гэтых фактаў, ніводнага пытаньня супроць гэтага зьявішча ячэйка не абгаварвала.

Да чэрвеня м-ца на парадку дню ячэйкі былі амаль выключна пытаньні організацыйна-агітацыйнага зьместу, як-та: аб дні друку, аб разьмеркаваньні нагрузак, аб выпіс͏цы газэт, зацьверджаньні пляну і г. д. З чэрвеня ў абвестках дню ячэйкі ўжо маюць значнае месца пытаньні гаспадарчага кіраўніцтва колгасу і ў сельсавеце, як-та: аб уборцы і асеньнім севе, аб хлебазагатоўках, аб сілосе, уборцы бульбы і інш. Але ж пастановы па гэтых пытаньнях агульныя, альбо вырашаюць толькі частку тэхнічных пытаньняў, напрыклад, па пытаньні аб асеньнім севе ячэйка абмежавалася ў пастанове выключна тым, каб сачылі за нагрузкай зернаачышчальных машын, зусім не датыкаючыся таго, што азімае поле яшчэ не разьмеркавана сярод адзінаасобнікаў, і што колгас у сваёй організацыі не падрыхтаваны да ўборкі і севу. Таксама не абгаворана і пытаньне аб політрабоце сярод колгасьнікаў ў сувязі з надыходзячай працай па ўборцы і севу.

Адначасова з гэтым трэба адзначыць, што **ў ячэйцы не практыкуецца разьмеркаваньне комуністых і комсамольцаў на розныя вучасткі працы ў колгасе, каб забясьпечыць партыйны ўплыў у масах.**

Бывае так, што ў час уборкі, напрыклад, бульбы на полі 270-300 чал. колгасьнікаў - адзінаасобнікаў дапамагаюць колгасу, а комуністых і комсамольцаў сярод іх амаль што няма, бо комуністыя і комсамольцы працуюць у гэты час у большасьці сваёй каля малатарні, альбо ў іншых галінах гаспадарчай працы, дзе мала працуе колгасьнікаў.

Ніякай ўвагі не зьярталася з боку ячэйкі на тое, каб комуністыя былі больш прыкладнымі ў колгасе; ня гледзячы на тое, што асобныя комуністыя адносяцца вельмі дрэнна да колгаснай гаспадаркі (патравы сваімі сьвіньнямі гароду і пасеву, пакража корму для сьвіньняў і г. д.), ячэйка ні разу не ставіла на абгаварэньне пытаньня аб учынках гэтых комуністых.

Наогул самакрытыка ў ячэйцы не разгорнута, а ў працы кіруючых органаў колгасу амаль адсутнічае колегіяльнасьць, і вельмі часта адчуваецца камандаваньне асобных кіраўнікоў колгасу. Не разгорнута ў колгасе соцспаборніцтва і ўдарніцтва, а, паміж іншым, самацёкам былі пачыны па організацыі ўдарных брыгад, як-та: 7 рабочых цагельні, 18 сталяроў і некальні жанчын бульбакапальшчыц, але ж ніякай організацыйнай працы ячэйкай не праведзена, і гэтыя пачыны не замацаваны.

У сувязі з дрэннай політыкавыхаваўчай працай сярод колгасьнікаў мае месца ў колгасе ўплыў кулацкіх настрояў на значную колькасьць колгасьнікаў, чаму і заўважана зайздрасьць да рабочага („рабочым усё даюць, а нам нічога, мы пасылаем продукты, а нам не даюць ні ботаў, ні мануфактуры“). Таксама наглядаюцца і антысэміцкія настроі, што выявіліся ў выступленьнях некаторых колгасьнікаў: „кулакоў з вёскі высяляюць, а ў мястэчках жыдом дамы зьвяртаюць“ Праца з беднатой і батрацтвам у колгасе не вядзецца. У сакавіку месяцы, без папярэдняга абгаварэньня ў ячэйцы **на абʻядналым паседжаньні груп**

беднаты колгасу, СКУ і сельсавету комуністамі была праведзена пастанова аб тым, каб аб'яднаць ўсе гэтыя групы ў адну групу беднаты. З таго часу ні аб'яднаныя групы беднаты, ні ўпаасобку гэтыя групы ня зьбіраліся. Улічваючы, што ў колгасе яшчэ няма выразнага абагуленьня сродкаў вытворчасьці, і нaглядающца кулацкія настроі, патрэбна організацыя ў колгасе групы беднаты.

Ў ячэйцы КП(б)Б была пачата праца з актывам, але ж яна абмежавалася складаньнем сьпісу прыячайковага беспартыйнага актыву, а ў гэтым сьпісе знаходзяцца такія элементы, якія сваю актыўнасьць скарыстоўвалі на шкоду колгасу, напрыклад, асобныя з іх забралі самавольна інвэнтар і абагуленую па статуту жывёлу, а адзін з іх, член сельсавету, некалгасьнік, выступаў актыўна на паседжаньні сельсавету з кулацка-хуліганскімі заявамі супроць хлебазагатовак.

У сваёй штодзённай працы ячэйка КП(б)Б ня ўлічвала неабходнасьці прыцягненьня серадняка да актыўнага ўдзелу ў кіраўніцтве гаспадаркай колгасу. і пры складаньні кіруючых органаў колгасу таксама не даўлічылі неабходнасьць ўцягненьня ў кіруючыя органы колгасу новых членаў колгасу, што ўступілі ў час падрыхтоўкі да вясеньняга севу (апошнія складаюць 90 проц. усяго складу колгасу). Вось чаму ў складзе праўленьня колгасу няма ніводнага члена праўленьня з ўвайшоўшых у колгас гаспадароў вёскі Асарэвічы ў гэтым годзе, што складае каля 80 проц. ўсяго колгасу, а абралі ў склад праўленьня амаль выключна з тых членаў колгасу, якія былі ў яго складзе да масавага прыліву.

У склад рэвізійнай комісіі ўведзены 2 таварышы з раённых устаноў і адзін комсамолец, які ўвайшоў у колгас без бацькоў і ня выдзяліўся з гаспадаркі, нічога ня здаў з маёмасьці ў колгас і ніякім аўторытэтам не карыстаецца. Гэтая рэўкомісія ні разу ня зьбіралася, і невядома яшчэ, хто яе старшыня, і нават да разьмеркаваньня ўраджаю рэвізія не праведзена.

Пры разьмеркаваньні ўраджаю заўважаны факт грубога парушэньня інтарэсаў серадняка, што пагоршыла настроі гэтага серадняка. Выявілася гэтае парушэньне ў тым, што ячэйка КП(б)Б і праўленьне колгасу не растлумачылі як мае быць пытаньня аб абагуленьні азімых пасеваў, быўшых у карыстаньні новых колгасьнікаў, і ня было яскравасьці, чым адрозьніваецца колектыўная ўборка ад абагуленьня гэтых пасеваў. Праўленьне колгасаў, абагуліўшы, згодна пастановы сходу, гэтыя пасевы пры разьмеркаваньні ўраджаю, ня ўлічыла колгасьнікам тыя працдні, якія патрацілі колгасьнікі на пасеў былых іх азімых пасеваў, што значна паменшыла прыбыткі серадняка ад азімых.

Кіраўніцтва ячэйкі КП(б)Б сельсаветам слабое, пры наяўнасьці ў складзе сельсавету з 20 членаў 12 колгасьнікаў, але ж апошнія не скарыстоўваюцца па выкананьню розных даручэньняў. Старшыня сельсавету мотывуе гэта тым, што, як-быццам, начальнік райміліцыі, будучы ў сельсавеце, казаў яму: „ты колгасьнікаў не чапай, бо яны павінны працаваць ў колгасе“. Ячэйка КП(б Б не рэагуе на тое, што сельсавет мала чаго робіць па прымушэньню кулацтва здаваць хлеб па загатоўках, і плян загатовак да кулацкага двара, акрамя збожжавых культур, не даведзены. Сельсаветам таксама нічога ня зроблена па скарыстаньню сродкаў самаабкладаньня мінулага году. Дакладу колгасу сельсавет ні разу не заслухоўваў і слаба рэагуе на факты масавых патраў колгасных пасеваў.

Ячэйка комсамолу ў гэтым колгасе мае 8 членаў і аднаго кандыдата, з якіх адзін—з 1925 году, адзін—з 1927 году, 3—з 1929 году, а астатнія—з 1930 году ў камсамоле. Пры наяўнасьці членаў ячэйкі з такім комсамольскім стажам і нават аднаго кандыдата КП(б)Б з іх, сэкратаром ячэйкі абраны комсамолец, са стажам некалькі месяцаў, якому яшчэ незнаёмы формы працы ячэйкі комсамолу, а дапамогі ад ячэйкі КП(б)Б ён ня меў. Нават пачынаньні сэкратара ячэйкі комсамолу ў галіне сіласаваньня не атрымалі дапамогі з боку ячэйкі КП(б)Б.

Не праводзіцца таксама за апошні час і праца сярод жанчын, і ня прыняты меры па дапамозе ім ў арганізацыі нагляду за дзяцьмі ў час ўборкі бульбы.

Маючыяся на тэрыторыі сельсавету грамадзкія арганізацыі чамусьці знаходзяцца пры школе, загадчыкам якой зьяўляецца настаўнік, які быў вычышчаны пры чыстцы савецкага апарату. У складзе гэтых арганізацый ёсьць значная частка колгасьнікаў, асабліва ў драмгуртку. Лічу, што больш мэтазгодна было-б арганізаваць гэтыя грамадзкія організацыі і наогул культ-масавую працу пры колгасе.

**Улічваючы наяўнасьць яшчэ 2/3 сялянскіх гаспадарак, якія пакуль яшчэ ня ў колгасе, ячэйка КП(б)Б павінна працаваць як сельская ячэйка КП(б)Б, каб забясьпечыць кіраўніцтвам усё гаспадарчае і палітычнае жыцьцё колгасу і ўсяго сельсавету.**

Кіраўніцтва РК КП(б)Б гэтай ячэйкай абмяжоўвалася абежнікамі альбо наездамі таварышоў для выкананьня асобных даручэньняў, але ж ня было глыбокага вывучэньня працы гэтай ячэйкі і больш доўгай дапамогі ёй у пастаноўцы яе працы, ня было таксама барацьбы з праваопартуністычнымі скрыўленьнямі партыйнай лініі на практыцы ў працы гэтай ячэйкі КП(б)Б.



# У ЦКК РСІ

**П. Рэвінскі**

## Вынікі II пленуму ЦКК КП(б) Бел.

Разгорнутае соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту, выцясьненьне і выкарчоўваньне карэньняў капіталізму няўхіліна сустракаюць шалёнае супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў соцыялістычнаму будаўніцтву.

Ленінскае кіраўніцтва ЎсеКП(б) забясьпечыла вялікія посьпехі ў індустрыялізацыі СССР. Пад кіраўніцтвам нашай партыі правядзеньне ёю правільнай Ленінскай лініі і стварэньне моцнай соцыялістычнай індустрыяльнай базы далі магчымасьць паставіць ва ўсю шырыню пытаньне аб соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Праведзенная работа па замацаваньню соцыялістычнай індустрыяльнай базы, узмацненьню саюзу рабочых з асноўнай масай сялянсерадняком, пры актыўным удзеле батрацка-бядняцкіх колаў у вёсцы і павароце серадняка на шлях соцыялістычнага будаўніцтва стварылі ўмовы і прадпасылкі для правядзеньня суцэльнай колектывізацыі і на гэтай падставе ліквідацыі кулацтва як клясы.

Пасьпяховае соцыялістычнае будаўніцтва выклікае гвалт і шалёнае супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў як у буржуазных краінах, гэтак і ўнутры краіны.

Выкрытыя контррэволюцыйныя змовы гавораць з дастатковай яснасьцю аб гэтым. Імкненьне імпэрыялістычных дзяржаў знайсьці „жывыя" сілы ўнутры СССР, абаперціся на кулацтва і прадажную жменьку буржуазных спэцаў, падрыхтоўка да ўзброенага выступленьня—усё гэта гаворыць аб тым, што буржуазія ўзмоцнена рыхтуецца пашкодзіць нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

Адсюль, з аднаго боку, згрупаваньне буржуазных сіл супроць краіны, якая будуе соцыялізм (экономічная блёкада, ваенная падрыхтоўка, шкодніцтва, змовы і г. д.), а з другога боку, згрупаваньне ўсіх пролетарскіх і ідучых за пралетарыятам працоўных мас у абарону соцыялістычнай дзяржавы і на барацьбу за пашырэньне і ўзмацненьне соцыялістычнай базы і будаўніцтва.

Выкрыты беспрынцыповы права-„лявацкі" блёк Сырцова-Ломінадзе і ажыўленьне ў шэрагу выпадкаў гаваопартуністычных практыкаў патрабавала паставіць пытаньне перад т.т. Бухарыным, Рыкавым і Томскім аб выкананьні імі рашэньняў XVI зьезду ЎсеКП(б), аб тым, каб яны на справе паказалі і давялі неабходнасьць барацьбы з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, і цьвёрда заявілі аб сваёй позыцыі і аб адносінах да права-„лявацкага" блёку, бо маўчаньне іх „сьведчыць аб іх сьвядомым імкненьні стаць прыцягальным цэнтрам для ўсіх сіл, змагаючыхся супроць генэральнай лініі партыі".

Таму пленум ЦКК, заслухаўшы і абгаварыўшы пытаньне аб унутры-партыйным становішчы, далучыўшыся да пастановы бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК ад 10 лістапада па гэтым пытаньні, паставі. перад ЦК і ЦКК Усе КП(б) пытаньне, каб у адносінах да Сырцова-Ламінадзе і іншых права-„лявацкіх" опортуністых былі прыняты „самыя рашучыя організацыйныя меры, ня спыняючыся перад выключэньнем іх з партыі, паставіўшы гэткім чынам пытаньне перад былымі лідэрамі правых—Бухарыным, Томскім і Рыкавым, што пры ўмове, калі яны ня стануць на шлях актыўнай барацьбы за генэральную лінію партыі супроць правага опортунізму, дык у адносінах да іх павінны быць ужыты рашэньні XVI зьезду ЎсеКП(б) аб несумяшчальнасьці поглядаў правых з прабываньнем іх у радох партыі".

Пленум ЦКК заклікаў усе КК рашуча павесьці барацьбу з опортуністычнымі элемэнтамі, якія тормозяць соц. будаўніцтва, і накіраваць асноўны удар па правым опортунізьме, як галоўнай небясьпецы ў перашкодзе гэтаму будаўніцтву

* * *

Пленум ЦКК шырока абгаварыў пытаньне аб выкананьні 2-га году пяцігодкі і пытаньні пляну на асобны квартал і опэрацыйны 1931 г. Усім вядомыя вялізарныя посьпехі, дасягнутыя ў росьце нашай соцыялістычнай прамысловасьці і выкананьні пяцігодкі ў 4 гады, зьяўляюцца вынікам правільнай Ленінскай політыкі нашай партыі і вялізарнага энтузыязму рабочых мас. Аднак, гэтыя посьпехі не павінны зацямняць вялікіх недахопаў, якія наглядаліся і наглядаюцца ў выкананьні другога году пяцігодкі ў БССР. Наадварот, іменна на фоне вялізарных посьпехаў неабходна вылучыць і больш завастрыць у вагу на недахопах, каб гэтыя недахопы хутчэй зьнішчыць. Перад фактам аграмаднай творчай работы і энтузыязму рабочых усякае адставаньне ці невыкананьне сваіх плянавых заданьняў ёсьць ганебная пляма на соцыялістычным будаўніцтве.

У той час, як шэраг асобных галін прамысловасьці значна перавыканаў свае гадавыя пляны, як, напрыклад, папяровая, якая выканала 107,6 проц., пляну поліграфічная—111,8 проц., шэраг іншых значна не давыканаў сваіх прамфінплянаў: тарфянай прамысловасьцю пляны выкананы на 68 проц., керамічнай—на 62,9 проц., тэкстыльнай—на 80,5 проц., скураной—на 80,9 проц. і г. д.

Асабліва вялікія недахопы наглядаюцца ў выкананьні якасьці продукцыі. Якасьць продукцыі па большасьці прадпрыемстваў патрабуе значнага палепшаньня.

Пленум павінен быў паставіць рашуча пытаньне аб тым, што невыкананьне прамфінпляну па колькасных і якасных паказальніках не зьявілася па об'ектыўных прычынах, за якімі некаторыя працаўнікі стараюцца хавацца, **„а зьяўляецца вынікам недастатковага організацыйна-тэхнічнага кіраўніцтва, а часамі безгаспадарчых і опортуністычных адносін з боку паасобных гаспадарчых, профсаюзных і партыйных органаў, якія незаўсёды здолелі організаваць актыўнасьць рабочых мас і стаць на чале іх вытворчага ўздыму, не скарысталі поўнасьцю соцыялістычных форм працы: соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, сустрэчны прамфінплян, вытворчыя манэўры і г. д,; не давялі прамфінпляну да варштата і рабочага, не стварылі спрыяючых умоў для разьвіцьця і скарыстаньня ініцыятывы рабочых, вынаходніцтва, недастаткова ўлічвалі і праводз лі ў жыцьцё прапановы рабочых і інш“.**

Адзначаючы, што шэраг работ па капітальным будаўніцтве праходзіў без дастатковай падрыхтоўкі і са значным спазьненьнем, недастаткова ўвязана з фінансавымі плянамі і забесьпячэньнем будаўнічымі матар'яламі, новае будаўніцтва было ў шэрагу выпадкаў ня скончана ў тэрмін.

Работа чыгуначнага, рачнога і дарожнага транспорту, які забясьпечвае абслугоўваньне соцыялістычнай гаспадаркі, пытаньні аб кадрах, мясцовай прамысловасьці і г. д.—усе гэтыя і рад іншых гаспадарчых пытаньняў былі абгавораны на пленуме.

Прынята шэраг практычных мер, і пленум ЦКК абавязаў органы КК-РСІ палепшыць пастаноўку работы па выкананьні пляну асобнага кварталу і опэрацыйнага 1931 г., гэтага рашаючага году ў выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады.

* * *

Пытаньне пляну работ ЦКК-НКРСІ на асобны квартал і опэрацыйны 1931 г. заняло значнае месца ў рабоце пленуму ЦКК. Асаблівасьць „вытворчага“ пляну работ ЦК-НКРСІ зьмяшчаецца ў тым, што яна свае пляны фактычна будуе на плянавых мерапрыемствах ведамстваў і іншых організацый. Аднак, гэтых плянаў да гэтага часу няма. Таму патрабавалася скласьці такі плян работы, які ў асноўным ахапіў-бы важнейшыя ўчасткі работы і згрупаваўся на тых

рашаючых вучастках, ад якіх залежыць пасьпяховасьць усяе правадзімай работы.

Паклаўшы ў аснову свае работы пасьпяховае выкананьне рашэньняў XVI зьезду ЎсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б, дырэктыў партыі і пастаноў ураду, пленум ЦКК паставіў перад сабою наступныя галоўнейшыя задачы ў рабоце ЦКК-Н РСІ:

а) захаваньне адзінства партыі, забесьпячэньне і правядзеньне генэральнай лініі партыі, бязьлітасную барацьбу з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з „левымі" загібамі і рэшткамі контр-рэволюцыйнага тракцізму, прымірэнцтвам да ўхілаў, права-„лявацкім" блёкам і двурушніцтвам;

б) забесьпячэньне пасьпяховага выкананьня пяцігодкі ў 4 гады і выкананьне плянаў у асобным квартале і опэрацыйным 1931 г.;

в) далейшае пашырэньне і замацаваньне соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы—саўгаснае будаўніцтва і колектывізацыю сельскай гаспадаркі і на гэтай аснове—ліквідацыю кулацтва, як клясы;

г) правядзеньне Ленінскай нацполітыкі, рашучую барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам і нацыянал-опортунізмам, шовінізмам розных колераў, усямерна ўзмацняючы інтэрнацыянальнае выхаваньне працоўных мас;

д) шырокае разгортваньне самакрытыкі, унутрыпартыйнай і рабочай дэмократыі, мобілізацыю рабочых і асноўных працоўных мас вакол палітычных задач, экономічнага будаўніцтва, абароны СССР і г. д."

Правадзімае новае будаўніцтва і рэконструкцыя старых прадпрыемстваў патрабуюць таго, каб удзяліць асаблівую ўвагу мобілізацыі унутраных рэсурсаў і рэзэрваў, тэхнічным удасканаленьням, рацыяналізатарскім мерапрыемствам і стандартным формам продукцыі.

Пытаньні аб кваліфікаваных кадрах паўстаюць ва ўсёй шырыні. Новае будаўніцтва, пашырэньне і рэконструкцыя існуючых прадпрыемстваў патрабуюць вялікай колькасьці новых кваліфікаваных кадраў. Гэтым пытаньнем трэба заняцца ня толькі з боку падрыхтоўкі новых кадраў—гэта задача, бязумоўна, першачарговая—але і лепшага скарыстаньня і перасоўваньня наяўных кадраў.

Работа па пашырэньні соцыялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы—далейшае разгортваньне новых саўгасаў і ўзмацненьне існуючых, далейшая колектывізацыя і на гэтай аснове—ліквідацыя кулацтва як клясы, мэханізацыя сельскай гаспадаркі і г. д.,—усё гэта павінна заняць значнае месца ў рабоце органаў КК-РСІ.

Пытаньні транспорту, і асабліва чыгуначнага і воднага, у пляне работ займаюць дастатковае месца. Работа снабжэнчаскіх і кооперацыйных органаў па грамадзкім харчаваньні, рабочым снабжэньні і захаваньні рэальнай зарплаты узята пад асаблівы нагляд контрольных органаў

Прыняты ЦКК плян работ зьяўляецца той баявой програмай, якая павінна забясьпечыць і замацаваць наша соцыялістычнае будаўніцтва. Таму пытаньне, як лепш паставіць работу органаў КК-РСІ, савецкіх, кооперацыйных, гаспадарчых і іншых організацый, заняло значны час у рабоце пленуму.

Перабудова работы органаў КК-РСІ, узмацненьне і ўмацаваньне лепшымі работнікамі, правільная пабудова кіруючых і выканаўчых органаў у рабоце савецкіх, гаспадарчых і кооперацыйных організацый, умелае плянаваньне і строгае разьмеркаваньне функцый і адказнасьці ў рабоце павінны складаць аснову ўсяе работы КК-РСІ і іншых організацый.

Асноўнае месца ў пляне работ займаюць праверка выкананьня асноўных рашэньняў і дырэктыў партыі і ўраду і асабліва дадзеных раней дырэктыў з боку ЦКК-НКРСІ і якасьць работы органаў КК-РСІ. Трэба проста сказаць, што даваемыя дырэктывы далёка не заўсёды выконваюцца, а ў шэрагу выпадкаў наогул забываюцца на іх. Неабходна ўзяць за правіла: **раней, чым даваць новую дырэктыву па тым ці іншым пытаньні, трэба праверыць выкананьне маючайся дырэктывы.** Неабходна больш сконцэтраваць увагу на

самой рабоце і яе выкананьні і павесьці рашучую барацьбу з „заседательской суетнёй“.

Ставячы перад сабой задачу плянавасьці ў рабоце ЦКК-НКРСІ і яго мясцовых органаў, ні ў якім разе ня ўпускаць бягучых пытаньняў. Плянавыя пытаньні—гэта тыя важнейшыя пытаньні, якія патрабуюць глыбокага вывучэньня і вялікай прапрацоўкі для прыняцьця раду мер па палепшаньні таго ці іншага вучастку работы. У гэтай жа меры органы КК-РСІ павінны будуць заняцца і тымі бягучымі пытаньнямі, якія складаюць жыцьцёвую неабхоенасьць і патрабуюць умяшаньня органаў КК-РСІ.

Выходзячы з гэтага, плян работ ЦКК-НКРСІ **будзе прымяняцца пакв артальна, каб улічыць важнасьць выкананьня тае ці іншае работы ў тэрмін, прадугледзець выканаўцаў і ўключыць дадаткова шэраг работ, якія патрабуюць выкананьня.**

ЦКК-НКРСІ павінны сьвяртаць асаблівую ўвагу рацыяналізатарскім мерапрыемствам палепшаньню сыстэмы вытворчасьці і дасканальнасьці кіраўніцтва, масавасьці ў рабоце і мобілізацыі ўнутраных магчымасьцяй.

Новым ў рабоце КК-РСІ зьяўляецца тое, што з ліквідацыяй акруг зараз організаваны ў буйнейшых гарадох і ва ўсіх раённых цэнтрах органы КК-РСІ. Гэтым самым ЦКК-НКРСІ зможа значна шырэй і глыбей ахапіць работу. Пытаньне організацыі і ўмацаваньня органаў КК-РСІ на мясцох, падбору дастаткова моцных работнікаў, падрыхтоўкі і перакваліфікацыі іх, правільнага накіраваньня іх работы займе значную частку часу ў рабоце ЦКК-НКРСІ. Узмацненьне мясцовых органаў КК-РСІ дазволіць шырэй і глыбей паставіць пытаньне аб пашырэньні соцыялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы аб вывучэньні раду партыйных спраў і наогул работы нізавога савецкага і коопэрацыйнага апарату.

Ва ўсёй рабоце органаў КК-РСІ асноўным зьяўляецца шырокае прыцягненьне рабочых і працоўных мас сялянства як у сваю работу, гэтак і асабліва ў работу савецкіх органаў і грамадзкіх організацый.

Апора ва ўсёй рабоце на шырокія колы працоўных мас, **стварэньне вакол сябе актыву з добраахвотнікаў, груп садзейнічаньня, сэкцый і комісій РСІ, рабсялькораў і друку, правільнае скарыстаньне і дапамога ў рабоце масавых організацый—усё гэта зьяўляецца асноўнай прадпасылкай пасьпяховасьці ў рабоце. Прэзыдыум ЦКК,** даючы ацэнку масавай работы, прызнаў, што работа мясцовых органаў КК-РСІ будзе расцэньвацца раней за ўсё па характару і размаху пастаноўкі масавай работы.

Другая ўмова дзеля дасягненьня пасьпяховасьці ў рабоце—гэта шырокае разгортваньне самакрытыкі і ўнутрыпартыйнай і рабочай дэмократыі. Пытаньне разгортваньня самакрытыкі і бязьлітаснай барацьбы з зажымшчыкамі самакрытыкі ва ўсіх праявах павінна таксама зьяўляцца асноўнай задачай пасьпяховасьці ў рабоце органаў КК-РСІ.

Неабходна заўсёды памятаць устаноўку Леніна ў рабоце РСІ: **„задача Рабоча-Сялянскгй Інспэкцыі—ня толькі і нават ня столькі „лавіць“ і „выкрываць“ (гэта задача суду, з якім РСІ сутыкаецца блізка, але ня зусім аднолькавая), колькі умець выправіць. Умелае выпраўленьне ў тэрмін—вось галоўная задача РСІ“.**

* * *

Апошнім пытаньнем ў рабоце пленуму зьяўлялася пытаньне чысткі савецкага апарату. Пытаньні аб чыстцы савецкага апарату ўжо разглядаюцца трэці раз. Другі пленум таксама яшчэ ня здолеў канчаткова падвесьці вынікаў, бо сама чыстка яшчэ ня скончана, а разгледзеў ход чысткі і папярэднія вынікі.

Рашуча асудзіўшы паклёп права-„лявацкага“ блёку, на чале з Сырцовым і Ломінадзе, што нібы „на працягу году займаліся тым, што паляпшалі апараты ведамстваў, правялі чыстку шэрагу організацый, а выходзіць, што апараты сталі працаваць горш“. Гэты паклёп ня мае нічога агульнага з сапраўднасьцю і зьяўляецца злосным вымыслам і абмовай нашага савецкага апарату, які праводзіць вялікую работу соцыялістычнага будаўніцтва.

# Рэзолюцыя

## па паведамленьні т.т. Гея і Калніна аб унутрыпартыйн. становішчы

I.

Пленум ЦКК КП(б)Б адзначае, што разгорнутае соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту, рашуча правадзімая політыка ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі і ў выніку гэтага тыя гіганцкія посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, якія дасягнуты рабочай клясай пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, выклікаюць шалёнае супраціўленьне ўсіх варожых сіл дыктатуры пролетарыяту—экономічная блёкада, шкодніцтва, падрыхтоўка нападу на СССР, якія спрабуюць сарваць будаўніцтва соцыялізму і зьнішчыць краіну дыктатуры пролетарыяту.

У гэтых умовах абвастрыўшайся клясавай барацьбы, пры маючыхся цяжкасьцях соцыялістычнага росту, ажывілі сваю дзейнасьць опортуністычныя элемэнты ўнутры нашае партыі, паднялі галаву і правыя і „левыя" опортуністыя, якія імкнуцца гнуснай спэкуляцыяй на нашых цяжкасьцях зьвярнуць партыю з ленінскіх позыцый.

На гэтай-жа падставе склаўся ў апошні час гнілы, беспрынцыповы, права-„лявацкі" блёк Сырцова-Ломінадзе, які спрабаваў анты-партыйнай, раскольніцкай, двурушніцкай дзейнасьцю атакаваць генэральную лінію партыі і ленінскае кіраўніцтва ЦК на чале з т. Сталіным, стаўшы гэтым самым на шлях падрыву дыктатуры пролетарыяту.

Гэтая антыпартыйная работа права-„лявацкага" блёку падрыхтавана барацьбой супроць партыі правымі опортуністымі, на чале з Бухарыным, Рыкавым і Томскім. Упартае маўчаньне былых лідэраў правых перад тварам агідных фактаў двурушніцкай фракцыйнай работы ў радох партыі (Руцін, Марэцкі, Нусінаў і іншыя) сьведчыць аб іх сьвядомым імкненьні стаць прыцягальным цэнтрам для ўсіх сіл, змагаючыхся супроць генэральнай лініі партыі.

Пленум ЦКК КП(б)Б цалкам і поўнасьцю далучаецца да пастановы Бюро ЦК і Прэзыдыуму ЦКК ад 10 лістапада па гэтым пытаньні. Пленум упэўнены, што ЦК і ЦКК УсеКП(б) прымуць у адносінах да Сырцова-Ломінадзе, Шацкіна і інш. самыя рашучыя організацыйныя меры, не застанаўліваючыся перад выключэньнем іх з партыі, паставіўшы гэткім чынам пытаньне перад былымі лідэрамі правых—Бухарыным, Томскім і Рыкавым, што пры ўмове, калі яны ня стануць на шлях актыўнай барацьбы за генэральную лінію партыі супроць опортунізму і, галоўным чынам, супроць правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, то ў адносінах да іх будуць ужыты рашэньні XVI зьезду УсеКП(б) аб несумяшчальнасьці поглядаў правых з прабываньнем у радох партыі.

Пленум ЦКК заклікае ўсю КП(б)Б да яшчэ большай пільнасьці і ідэёва-організацыйнай непрымірымасьці ў барацьбе за генэральную лінію партыі, супроць правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі, супроць „левых" опортуністых, супроць двурушнікаў і прымірэнчых адносін да ўхілаў ад генэральнай лініі партыі.

II.

Наступленьне соцыялізму па ўсім фронце і зьвязанае з гэтым абвастрэньне клясавай барацьбы выклікаюць „актывізацыю ў радох партыі нацыянальных ухілаў у бок вялікадзяржаўнага шовінізму" (з рэз. XVI зьезду). Галоўнай небясьпекай на даным этапе зьяўляецца вялікадзяржаўны шовінізм, сутнасьць якога заключаецца ў імкненьні абыйсьці нацыянальную розьніцу мовы, культуры, быту; у імкненьні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і вобласьцяй; у імкненьні падарваць прынцып нацыянальнай роўнасьці і разьвянчаць політыку партыі па нацыяналізацыі апарату, нацыяналізацыі друку, школы і інш. дзяржаўных і грамадзкіх організацый" (Сталін, XVI зьезд УсеКП(б). Разам з гэтым ні ў якім разе не павінна быць паслаблена барацьба супроць беларускага, польскага, яўрэйскага і інш. шовінізмаў.

Контр-рэволюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм вядзе барацьбу супроць дыктатуры пролетарыяту, за капіталістычную рэстаўрацыю, ствараючы агульны фронт з беларускім нацыянал-фашызмам па той бок мяжы (Луцкевіч, Станкевіч і інш.); ён зьяўляецца такім чынам складанай часткай польскага фашызму. Таму пленум лічыць, што барацьба супроць контр-рэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму зьяўляецца неабходнай умовай правядзеньня ленінскай нац. політыкі ў БССР.

У радох КП(б)Б выявілася пэўная праслойка нацыянал-опортуністых, якія зьяўляюцца агентурай нац.-дэмократызму, карэньні якога зрасьліся з правым опортунізмам.

Пленум ЦКК цалкам і поўнасьцю ухваляе пастановы пленуму ЦК КП(б)Б па нац. пытаньні, рашэньне аб несумяшчальнасьці падзяленьня поглядаў нацыянал-опортунізму з прыналежнасьцю да КП(б)Б і рашэньне ў адносінах да Ігнатоўскага (вывад яго з ЦК і перадача ў ЦКК аб прабываньні яго ў радох КП(б)Б) і аслабаненьні ад працы сэкратара ЦК КП(б)Б т. Васілевіча.

Пленум ЦКК даручае Прэзыдыуму ЦКК і усім контрольным комісіям КП(б)Б весьці бязьлітасную барацьбу з нацыянал-опортунізмам у радох КП(б)Б, ажыцьцяўляючы рашэньні аб несумяшчальнасьці падзяленьня поглядаў нацыянал-опортунізму з прабываньнем у радох КП(б)Б.

Пленум ЦКК адзначае, што да гэтага часу контрольныя комісіі вялі недастатковую работу ў барацьбе за правядзеньне ленінскай нацполітыкі, таму пленум паказвае ўсім контрольным комісіям на неабходнасьць рашучага ўзмацненьня барацьбы за правядзеньне нацполітыкі партыі і мобілізацыі КП(б)Б супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць нацыянал-опортунізму, як буржуазнай агентуры ў радох КП(б)Б і супроць іншых шовінізмаў, дабіваючыся ўзмацненьня інтэрнацыянальнага выхаваньня, рашучага пасіленьня беларусізацыі і будаўніцтва беларускай культуры, нацыянальнай па сваёй форме і соцыялістычнай па сваім зьмесьце, забясьпечыўшы моцнае пролетарскае кіраўніцтва гэтым будаўніцтвам.

Пленум ЦКК выказвае цьвёрдую ўпэўненасьць, што КП(б)Б, як і ўся наша партыя, нанясе руйнуючы ўдар па праваму опортунізму, як галоўнай небясьпецы на даным этапе, па „леваму" опортунізму, права-„лявацкаму" блёку, па нацыянал-опортунізму ў радох КП(б)Б, па двурушніцтву і па прымірэнчым адносінах да ўхілаў ад генэральнай лініі партыі. КП(б)Б у гэтай барацьбе яшчэ мацней сплаціцца пад бальшавіцкім кіраўніцтвам ленінскага ЦК УсеКП(б) і яе іспытанага правадыра т Сталіна і забясьпечыць пасьпяховае выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады і канчатковую перамогу соцыялізму.

---

**Ад редакцыі.** Астатнія 2 рэзолюцыі пленуму ЦКК аб выкананьні пляну па прамысловасьці і чыстцы савецкага апарату будуць зьмешчаны ў наступным нумары.

---

# Рэзолюцыя

## 2-га пленуму ЦКК КП(б)Б. аб пляне работ ЦКК-НКРСІ БССР на асобны квартал 1930 г. і опэрацыйны 1931 г.

*(па дакладу т. Рэвінскага).*

I. Для пасьпяховага выкананьня пастаноў XVI зьезду УсеКП(б), XIII зьезду КП(б)Б і наступных дырэктыў партыі і ўраду, ЦКК—НКРСІ БССР ў аснову сваёй работы ставіць наступнае:

а) захаваньне адзінства партыі, забесьпячэньне і правядзеньне генэральнай лініі партыі, бязьлітасная барацьба з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай па даным этапе, з „левымі" загібамі і рэшткамі контр-рэволюцыйнага троцкізму, прымірэнцтвам да ухілаў, права-„лявацкім" блёкам і двурушніцтвам;

б) забясьпечыць пасьпяховае выкананьне пяцігодкі ў 4 гады і выкананьне пляна ў у асобным квартале і опэрацыйным 1931 г.;

в) далейшае пашырэньне і замацаваньне соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы—саўгаснае будаўніцтва і колектывізацыя сельскай гаспадаркі і на гэтай аснове ліквідацыя кулацтва, як клясы;

г) правядзеньне Ленінскай нацполітыкі, рашучая барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з контр-рэволюцыйным нац.-дэмократызмам і нац.-опортунізмам, шовінізмамі розных колераў, усямерна ўзмацняючы інтэрнацыянальнае выхаваньне працоўных мас.

д) шырокае разгортваньне самакрытыкі, унутры-партыйнай і рабочай дэмократыі, мобілізацыі рабочых і асноўных працоўных мас вакол палітычных задач, экономічнага будаўніцтва, абароны СССР і г. д.—

II. Правадзімая шырокая програма індустрыялізацыі БССР патрабуе асабліва ўзмацніць контроль над новым будаўніцтвам, яго плянаваньнем і проэктаваньнем, правільным разьмеркаваньнем прамысловасьці, захаваньнем установленых цьвёрдых тэрмінаў сканчэньня будаўніцтва, яго рацыяналізацыі і патаненьня, рашуча зьнішчаючы пазаплянавае будаўніцтва. Асабліва зьвярнуць увагу на забесьпячэньне сыравінай і энэргетычнай базы, скарыстаньне мясцовых топліўных рэсурсаў (торф), на становішча лясной гаспадаркі.

Адначасова зьвярнуць таксама ўвагу і на разгортваньне мясцовай і саматужнай прамысловасьці, якая мае вялікае значэньне ва ўмовах БССР.—

Правадзімая далейшая рэконструкцыя і тэхнічнае пераабсталяваньне існуючых прадпрыемстваў патрабуе сконцэнтраваць большую ўвагу на мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў і рэзэрваў ў прамысловасьці і на транспорце; на павышэньні продукцыйнасьці прадпрыемстваў, пераходзе да больш тэхнічных удасканаленьняў, стандартных формах продукцыі, на пастаноўцы рацыяналізатарскай работы на прадпрыемствах.

Ва ўсёй гэтай рабоце павінна быць дастатхова зьвернута ўвага на разгортваньне ініцыятывы і самадзейнасьці рабочых (соц. спаборніцтва, ударніцтва, сустрэчны прамфінплян, вытворчыя манэўры і г. д.), пытаньням рабочага вынаходніцтва, скарыстаньню усіх рабочых прапаноў і фондаў прэм'яваньня.

Узяць пад асобы контроль выкананьне прамысловасьцю якасных паказальнікаў, барацьбу за зьніжэньне сабекошту і якасьць продукцыі, выяўленьне рэзэрваў, барацьбу з стратамі, правядзеньне рэжыму экономіі і барацьбу з цякучасьцю рабсілы, мобілізуючы на гэта ўвагу ўсёй

пролетарскай грамадзкасьці з тым, каб у бліжэйшы час дабіцца рашучага пераломy ў гэтай рабоце.

З боку кіруючых органаў дабіцца чоткага, сваячасовага і поўнага кіраўніцтва прамысловымі прадпрыемствамі і выкананьня дырэктыў партыі аб кіраўніцтве непасрэдна на прадпрыемствах, у цэхах і складаньня вытворчых праграм.

III. Асноўнае месца ў рабоце ЦКК—НКРСІ і яго мясцовых органаў павінна заняць праверка і садзейнічаньне выкананьню дырэктыў партыі па далейшаму пашырэньню спц. сэктару ў сельскай гаспадарцы, па далейшаму разгортваньню саўгасаў, колгасаў, правядзеньню культурна-тэхнічных мерапрыемстваў, мэханізацыі сельскай гаспадаркі і рэмонту інвентару, правядзеньню вытворчага і спажывецкага коопэраваньня, садзейнічаньне спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі, вырашэньню жывёла-гадоўчай проблемы, стварэньню цьвёрдай сыравіннай базы для прамысловасьці і для спажываньня гарадоў, організацыі правільнага збыту і перапрацоўкі с-г. сыравіны.

IV. Чыгуначнаму, воднаму і шляховаму транспорту, які павінен забясьпечыць поспяховасьць гаспадарча-эканомічнага жыцьця БССР-неабходна ўдзяліць асобную увагу, забясьпечыўшы выкананьне пляноў па новаму будаўніцтву на транспорце, па рэмонту рухавага складу, судоў і дарог, якасьць гэтага рэмонту, разгортваньне дарожнага будаўніцтва, чоткасьць у рабоце ўсіх транспортных організацый з тым, каб дабіцца бесьперабойнага выкананьня ўсіх перавозак і задач, ускладзеных на транспорт.

Зьвярнуць дастатковую ўвагу на разьвіцьцё рачнога транспорту і навігацыі, значна адстаўшай галіны транспорту і набываючай вялікае значэньне ва ўмовах БССР.

V. У сувязі са значным ростам нашай соцыялістычнай прамысловасьці і соц. сэктару сельскай гаспадаркі і тымі патрабаваньнямі, якія прад'яўляюцца на кваліфікаваныя новыя кадры, пытаньню падрыхтоўкі новых кваліфікаваных кадраў і правільнаму скарыстаньню наяўных кадраў,—павінна быць удзелена значная ўвага, каб поўнасьцю забясьпечыць маючыяся патрэбнасьці ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы.

VI. Пытаньні рабочага забесьпячэньня, павышэньня рэальнага ўзроўню зарплаты, сыстэма разьмеркаваньня і снабжэньня, палепшаньне соцыяльна-бытавых умоў рабочых і работніц-павінны быць ўзяты пад асобны нагляд органаў КК—РСІ.

VII. З ліквідацыяй акруг значна ўзрасьлі патрабаваньні і адказнасьць у рабоце раённых і сельскіх організацый, а таксама ўскладняюцца мэтоды чоткага і сваячасовага кіраўніцтва з боку цэнтральных і раённых організацый.

Неабходна працягваць работу па ўмацаваньню нізавога савецкага апарату, па пашырэньню яго правоў і абавязкаў і па рацыяналізацыі работы сав. апарату, яго спрашчэньню і патаненьню.

Павесьці рашучую барацьбу з непатрэбным і бюрократычным абсьледваньнем і контролем і наладзіць работу па інструктаваньню раёнаў і сельсаветаў, галоўным чынам, на конкрэтную дапамогу ў іх рабоце.

Барацьба з бюрократызмам, чыстка сав. апарату зможа пасьпяхова праводзіцца толькі пры ўмове мобілізацыі на гэту работу рабочых і працоўных мас. У сувязі з гэтым асаблівае значэньне набывае масавае шэфства рабочых над апаратам.

VIII. Уся работа ЦКК—НКРСІ і яго органаў на мясцох павінна праводзіцца пры шырокім прыцягненьні да гэтай справы рабочых і працоўных мас, шырэй скарыстоўваючы для гэтага ўжо існуючыя формы масавай работы КК--РСІ (сэкцыі РСІ, рабочыя засядацелі, „ЛК", групы садзейнічаньня РСІ і г. д.); у значна большай меры ў рабоце КК—РСІ і для асьвятленьня працы КК—РСІ павінен быць скарыстаны цэнтральны і мясцовы друк.

IX. Шырэй паставіць вывучэньне пытаньняў партыйнага жыцьця і асобных хваравітых зьявішч. У першую чаргу праверыць скарыстаньне і правядзеньне ў жыцьцё матар'ялаў і вынікаў чысткі партыі.

Пры выкананьні пляну работ неабходна кіравацца наступным паказаньнем Леніна, што „задача Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі ня толькі і нават ня столькі „лавіць" і „выкрываць" (гэта задача суду, з якім РСІ сутыкаецца блізка, але не таждзественна) колькі умець выправіць. Умелае выпраўленьне сваечасова—вось галоўная задача РСІ".

Для выкананьня вышэй пералічаных задач неабходна значна павялічыць тэмпы і якасьці работы органаў КК—РСІ, палепшыць сыстэмы і мэтоды работы, каб атрымаць найбольшую эфэктыўнасьць і найлепшыя вынікі ў рабоце.

У зьвязку з гэтым ЦКК—НКРСІ і мясцовыя Гор. і РайКК—РСІ ў бліжэйшы час павінны дабіцца поўнага ўкомплектаваньня ўсіх патрэбных работнікаў і палепшаньня іх кваліфікацыі.

Ставячы сваёй задачай сваячасовае выкананьне пытаньняў, намечаемых па пляну, органы КК—РСІ павінны ўмела падхватваць тыя пытаньні, якія высоўваюцца жыцьцём, каб сваячасова на іх рэагаваць.

Акрамя агульнага гадавога пляну ЦКК-НКРСІ і мясцовыя КК-РСІ павінны распрацоўваць конкрэтныя каляндарныя пляны работ на кожны квартал, з поўным вызначэньнем задач абсьледваньня выканаўцаў і тэрмінаў выкананьня. Органы КК—РСІ павінны павесьці рашучую барацьбу з множнасьцю контролю, дабіўшыся ў бліжэйшы час наладжваньня гэтай работы ў адпаведнасьці з дырэктывамі партыі.

Уноў організаваныя Гор. і РайКК—РСІ, якія складаюцца ў большасьці з новых работнікаў, ня маючых дастатковага вопыту ў рабоце КК--РСІ, асабліва маюць патрэбу ў конкрэтнай дапамозе і інструктаваньні з боку ЦКК—НКРСІ.

Неабходна ўстанавіць сталы выезд для інструктаваньня і дапамогі ў рабоце мясцом сяброў ЦКК і інструктароў-інспэктароў ЦКК—НКРСІ.

Выходзячы з гэтых асноўных умоў—зацьвердзіць наступны плян работ ЦКК—НКРСІ на асобны квартал 1930 і на 1931 г.

## Па партыйнай і арганізацыйнай лініі

Вывучэньне хваравітых зьявішч у партарганізацыі па матар'ялах чысткі партыі і мясцовых КК: а) барацьба з правым ухілам і „левымі" рэцыдывамі трацкісцкай ідэолёгіі; б) скажэньне партлініі ў сувязі з бытавымі умовамі і праявамі разлажэньня; в) хваравітыя зьявішчы ў комсамоле і парторганізацыях Чырвонай арміі.

Праверыць выкананьне пастаноў праверкомаў па чыстцы партыі.

Падвесьці ітогі чысткі КП(б)Б: распрацаваць шэраг мерапрыемстваў па зьнішчэньню скажэньняў і недахопаў, выяўленых у час чысткі.

Праверка выкананьня дырэктыў партыі па самакрытыцы, унутры партыйнай і рабочай дэмократыі: а) абсьледваньне рабселькораўскіх арганізацый; б) праверка выкананьня прапаноў рабочых, унасімых на вытворчых нарадах; в) становішча рэагаваньня на крытыку ў друку; г) абагуленьне матар'ялаў па самакрытыцы.

Праверка выкананьня дырэктыў партыі па нацыянальным пытаньні.

Абагуліць вопыт масавай работы ЦКК-РСІ: а) сэкцыі РСІ пры Гарсаветах і сельсаветах; б) работа рэвіз. комісій; в) работа з рабочымі заседацелямі і добраахвотнікамі; г) прыцягненьне спэцыялістых да работы КК—РСІ; д) работа „лёгкай кавалерыі". ЧКК, груп садзейнічаньня РСІ і інш.

Праверка выкананьня пастаноў XVI зьезду УсеКП(б) аб шэфстве рабочых над дзяржапаратам і аб рабоце з вылучэнцамі.

Праверка выкананьня пастаноў XVI партканфэрэнцыі аб барацьбе з бюрократызмам і палепшаньні работы савецкага апарату і пастаноў комісіі па чыстцы сав апарату.

Організацыя дапамогі, інструктаваньня і наладжваньня работы гар. і райКК-РСІ шляхам выездаў сяброў ЦКК і інструктароў, інспэктароў ЦКК-НКРСІ ва ўсе раёны БССР.

Правесьці абсьледваньне работы і інструктаваньне 20 гар. і райКК-РСІ з пастаноўкай дакладаў на прэзыдыуме ЦКК.

Абсьледваць сумесна з ЦК КП(б)Б 5 раёнаў па праверцы становішча работы ў раёнах па выкананьні пастаноў XIII і XVI зьездаў партыі з пастаноўкай дакладаў ў ЦКК і ЦК КПбБ.

Вывучэньне і праверка выкананьня дырэктыў партыі па разгортваньню соц. спаборніцтва, ударніцтва і інш. масавых форм соцыялістычнай організацыі працы на прадпрыемствах.

Абсьледваньне дзейнасьці КК ЦК ЛКСМБ і 5 гарадзкіх і раённых КК КСМ аб іх ролі ў барацьбе з хваробнымі зьявішчамі ў комсамоле.

Праверка сувязі органаў КК-РСІ з друкам і асьвятленьне работы праз друк.

Правядзеньне курсаў-нарад старшынь гар. і райКК-РСІ, загадчыкаў бюро скаргаў і інспэктароў.

Абсьледваньне і наладжваньне работы бюро скаргаў РСІ ў гарадох і раёнах.

Рацыяналізацыя работ гар. і райКК-РСІ.

Праверка выкананьня пастаноў XIII зьезду КП(б)Б па справаздачы ЦКК КП(б)Б.

Праверка выкананьня дырэктыў ЦКК УсеКП(б) па справаздачы ЦКК КПбБ.

Складаньне адзінага абсьледвацельскага пляну па БССР на 1931 г.

Праверка і організацыя работы контрольных ячэек ва ўстановах і прадпрыемствах.

Праверка становішча ўнутрыведамственага контролю і выкананьня дырэктыў аб скарачэньні множнасьці контролю.

## Прамысловасьць

Напрамак капіталаўкладаньняў у прамысловасьці ў першыя 2 гады пяцігодкі і плян на 1931 г. (эфэктыўнасьць, разьмяшчэньне, тэмпы будаўніцтва і г. д.).

Выяўленьне рэзэрваў і вытворчых магчымасьцяй і мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў ў прамысловасьці.

Скарыстаньне тарфяных багацьцяў БССР.

Электрабудаўніцтва ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы і яе суадпаведнасьць намячаемым плянам соц. будаўніцтва.

Проблема хэмізацыі—развіцьцё вытворчасьці штучных угнаеньняў, лесахэмічнай, перапрацоўка торфу і г. д.

Лесаўпарадкаваньне і выяўленьне лясных рэсурсаў БССР.

Лесааднаўленьне, лесамэліорацыя.

Лесаэкспорт і праца лясной вытворчасьці, якая працуе на экспорт.

Організацыйна-экономічнае раёнаваньне і структура лясной гаспадаркі і лясной прамысловасьці.

Падрыхтоўка і правядзеньне лесанарыхтовак і сплаву.

Падрыхтоўка і правядзеньне будаўніцтва.

Разгортваньне прамысловасьці будаўнічых матар'ялаў.

Скарыстаньне імпортнага абсталяваньня.

Развіцьцё і сыстэма кіраўніцтва мясцовай і саматужнай прамысловасьцю.

Праверка выкананьня прамфінпляну.

Праверка выкананьня дырэктыў па вынаходніцтву.

Праверка выкананьня дырэктыў па рацыяналізацыі прамысловасьці.

Праверка выкананьня дырэктыў партыі аб пастаноўцы кіраўніцтва ў прамысловасьці (адзінаначальле).

## Сельская гаспадарка

Праверка выкананьня дырэктыў партыі і ўраду па колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне сеткі колгасаў і капітальнае будаўніцтва ў іх.

Саўгаснае будаўніцтва ў БССР.

Будаўніцтва і дзейнасьць прамысловых прадпрыемстваў у саўгасах.

Мэханізацыя сельскай гаспадаркі (машынатракторныя станцыі і г. д.).

Проблема пашырэньня продукцыйнай жывёлагадоўлі і птушкаводзтва.

Развіцьцё садова-гароднай справы і тэхнічная перапрацоўка гэтых галін.

Насеннаводзтва—насенная справа.

Проблема пашырэньня і палепшаньня кармавой базы.

Сыстэма с.-г. падатку, акладнога дзяржстрахаваньня і самаабкладаньня.

Мерапрыемствы па разьвіцьцю тэхнічных культур і па іх пераапрацоўцы.

Проблема вапнаваньня і тарфаваньня глебы і прымяненьне штучнага ўгнаеньня.

Роля вопытных і навукова-дасьледчых установў у справе соц. рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і ўзьняцьця ўраджайнасьці.

Сельска-гасп. кампаніі (вясеньняя і асеньняя пасеўкампаніі, уборачная) і іх роля ў соц.-рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і па ўзьняцьцю ўраджайнасьці.

Праверка выкананьня дырэктыў партыі па сельска-гасп. коопэрацыі і рацыяналізацыі яе апарату.

Праверка выкананьня пастаноў НК РСІ па мэліорацыі.

## Транспорт і сувязь

Рэконструкцыя і рацыяналізацыя эксплёатацыйных работ чыгуначных раёнаў.

Мобілізацыя лішкаў і зьніжэньне выдаткаў па мэталю на транспорце.

Абсьледваньне нанова будуючыхся чыгунак у межах БССР.

Мэханізацыя пагрузачна-выкладачных работ.

Правядзеньне будаўнічых работ на вучастках МББ і Зах. чыгунак у БССР.

Разьвіцьцё рачнога транспорту і падрыхтоўка да навігацыі і да зімовага рамонту суднаў.

Праверка выкананьня дырэктыў партыі і ураду па ўтылізацыі рухавага складу, укараненьню японскіх мэтодаў працы і плянава-папераджальны рамонт.

Палепшаньне сувязі з раёнамі (тэлеграф, тэлефон, радыё, пошта).

Праверка выкананьня дырэктыў па разгортваньню дарожнага будаўніцтва.

## Коопэрацыя і гандаль

Проблема падвышэньня рэальнага ўзроўню зарплаты.

Работа коопэрацыі па лініі павялічэньня харчовых рэсурсаў краіны.

Сыстэма разьмеркаваньня і забясьпячэньня дэфіцытнымі прамтаварамі і продуктамі харчаваньня.

Організацыя забесьпячэньня плода-гароднінай.

Проблема мясазабесьпячэньня і мясной прамысловасьці.

Абсьледваньне гандлёвых прадпрыемстваў.

Праверка выкананьня дырэктыў па грамадзкаму харчаваньню.

Праверка выкананьня дырэктыў партыі па організацыі масавага контролю над спажывецкай коопэрацыяй.

## Савецкі апарат

Скончыць чыстку сав. апарату па ўсёй БССР.

Праверка выкананьня дырэктыў XVI партконфэрэнцыі аб пераводзе на функцыянальную сыстэму.

Узмацненьне і рацыяналізацыя нізавога сав. апарату.

Плянаваньне ў савецкіх установах.

Практыка безнаяўных разьлікаў і далейшае яе пашырэньне.

Мобілізацыя сродкаў насельніцтва.

Вынікі крэдытнай рэформы.

Раённы і сельскі бюджэты (іх самастойнасьць і экономічная моцнасьць).

Вывучэньне вопыту організацыі аддзяленьняў Дзяржбанку ў раёнах і пытаньня аб адзіным банку.

Становішча організацыі ведамсьцьвенага і грамадзкага фінконтролю на мясцох.

Праверка выкананьня дырэктыў аб зьніжэньні адмін.-гаспадарчых выдаткаў.

Проверка выкананьня дырэктыў аб пастановцы самарацыяналізатарскай працы ва ўсіх установах.

## Соцыяльна-культурныя пытаньні

Забесьпячэньне і падрыхтоўка кадраў у прамысловасьці і сельскай гаспадарцы.

Мерапрыемствы па правядзеньню політэхнізацыі школ.

Падрыхтоўка пэдагогічных і мэдыцынскіх кадраў і правільнае скарыстаньне маючыхся кадраў.

Праца акадэміі і яе адпаведнасьць задачам соцыялістычнага будаўніцтва.

Масава-культурная праца на вёсцы, у колгасах і саўгасах.

Стан дашкольнага выхаваньня па БССР.

Лекавая дапамога на вёсцы, у колгасах і саўгасах.

Вывучэньне пытаньняў, зьвязаных з організацыяй соцыялістычнага быту.

Вывучэньне форм, мэтодаў і зьместу працы па культурнаму абслугоўваньню рабочых.

Мерапрыемствы па ўцягненьню жанчын у вытворчасьць і па палепшаньню іх соц.-бытавых умоў.

Праверка дырэктыў па ўсеагульнаму навучаньню.

# ДЫРЭКТЫВЫ АБ ПАРТЫЙНАЙ ВУЧОБЕ

## Аб задачах партасьветы

*(Пастанова ЦК УсеКП (б) ад 13/IX 1930 г.).*

Узрастаючы размах соцыялістычнага будаўніцтва, які знаходзіць свой адбітак у гіганцкай програме трэцяга году пяцігодкі, задача ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, неабходнасьць барацьбы з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай у партыі, і з рэцыдывам трацкізму, ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, растучая патрэба ў кадрах, патрабуюць ад партыйных організацый у наступаючым годзе далейшага разгортваньня сеткі партыйнай асьветы і падвышэньня яе марксысцка-ленінскага ўзроўню.

ЦК УсеКП (б) рашуча асуджае наглядаючуюся ў некаторых організацыях недаацэнку партасьветы і прапануе мясцовым організацыям прыняць усе неабходныя захады да пашырэньня і палепшаньня якасьці партыйнай вучобы.

У аснове партыйнай асьветы ўсіх выгляду на наступны год павінны ляжаць рашэньні XVI зьезду. Партыйная вучоба ў школах і гуртках павінна быць найбольш шчыльна ўвязана з конкрэтнымі задачамі партыйнай організацыі на прадпрыемстве і ў вёсцы: работа па ўцягваньню мас у справу выкананьня промфінпляну трэцяга году пяцігодкі, разгортваньне колгаснага і саўгаснага будаўніцтва, узмацненьне работы з беднатой, правядзеньне пасеўкампаніі, барацьба за зьніжэньне сабекаштоўнасьці і рацыяналізацыя вытворчасьці, палепшаньне якасьці, снабжэньне і інш. Работа ў школах і гуртках павінна быць пабудована такім чынам, каб школы і гурткі, побач з сваёй вучэбнай работай, аказвалі сапраўдную дапамогу партыйным організацыям у выкананьні іх задач.

Правядзеньне гаспадарчых і політычных кампаній, соцыялістычнага спаборніцтва, палепшаньня організацыі працы і інш., сваім непасрэдным удзелам у гэтых кампаніях у організацыі і ўзмацненьні ўдарных брыгад і інш. Гэтая ўвязка з практычнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва павінна зьяўляцца адным з важнейшых пачаткаў работы ўсяе сеткі партыйнай асьветы.

**Побач з задачамі сыстэматычнага падвышэньня тэорытычнага і політычнага ўзроўню партыйных мас**, выкананьня іх у духу рэволюцыйнага інтэрнацыяналізму, далейшага ўцягненьня рабочых, батракоў і колгасьнікаў у шэрагі партыі, сетка партыйнай асьветы, асабліва яе сярэднія і **падвышаныя зьвеньні, павінны атрымаць больш выразную ўстаноўку на падрыхтоўку кадраў партыйнага актыву для розных галін партыйнай работы.**

У адпаведнасьці з гэтым ЦК лічыць неабходным:

1. Рэорганізаваць існуючую адзіную партыйную школу ў пачатковую партыйную школу з 3-4 месячным тэрмінам навучаньня, перабудаваўшы програму пачатковай партыйнай школы такім чынам, каб за засваеньне слухачамі асноў програмы і ўставу партыі было зьвязана з вывучэньнем чарговых задач соцыялістычнага будаўніцва і політыкі партыі. Лічыць пачатковую партыйную школу асноўным зьвяном масавай пачатковай політасьветы.

ЦК ставіць перад парторганізацыямі задачу поўнасьцю ахапіць вучобай ў пачатковай партшколе кандыдатаў партыі, а таксама членаў партыі, якія патрабуюць пачатковага політвыхаваньня, асабліва жанчын-комуністак. Парторганізацыям для папаўненьня шэрагаў партыі забясьпечыць партыйна-політычную падрыхтоўку ў пачатковых партшколах шырокіх мас беспартыйнага актыву рабочых, батракоў, колгасьнікаў, пры чым ахоп беспартыйных павінен быць ад 30 да 60 проц. складу партшкол, у залежнасьці ад конкрэтных умоў раёну, прадпрыемства.

Побач з разгортваньнем пачатковай партшколы організаваць масавую сетку гурткоў бягучай політыкі, газэтных гурткоў, кароткатэрміновых (5-10 дзённых) курсаў для падрыхтоўкі кадраў організатараў і агітатараў для правядзеньня масавых політычных і гаспадарчых кампаній (выкананьне прамфінпляну, хлебазагатоўкі, сяўба, палепшаньне організацыі снабжэньня, перавыбары саветаў, фабзаўкомаў, перазаключэньне колдагавароў і г. д.).

2. Паказаць на няправільнасьць наглядаўшыхся ў асобных парторганізацыях тэндэнцый да згортваньня марксысцка-ленінскіх (прадметных) гурткоў. Лічыць прадметныя гурткі найбольш гнуткай формай вывучэньня шырокімі кадрамі партыйнага актыву асобных тэорытычных дысцыплін марксызму-ленінізму і абавязаць партыйныя організацыі прыняць захады да ўзмацненьня работы марксысцка-ленінскіх гурткоў (лепшы падбор кіраўнікоў, прымацаваньне марксысцка-ленінскіх гурткоў да саўпартшкол і вячэрніх комвузаў, організацыя дадатковай консультацыі для слухачоў марксысцка-ленінскіх гурткоў і інш.). Побач з марксысцка-ленінскімі гурткамі разгарнуць для партыйнага актыву сетку гурткоў бягучай політыкі падвышанага тыпу і тэматычных гурткоў па вывучэньню асобных тэорытычных і політычных проблем (тэорыі і практыкі колгаснага будаўніцтва, экономікі пераходнага пэрыоду, пытаньня міжнароднага рабочага руху, пытаньня партыйнага будаўніцтва і г. д.).

Адначасова для тэорытычнай і практычнай падрыхтоўкі кадраў партыйнага актыву неабходна забясьпечыць абавязковае пашырэньне сеткі вячэрніх саўпартшкол і вячэрніх комвузаў,

часткова прызнаць мэтазгоднай організацыю вячэрніх комвузаў непасрэдна на буйных прамысловых прадпрыемствах. Асноўным тыпам вячэрняй саўпартшколы лічыць двухгадовую саўпартшколу (з закончаным цыклем першага году навучаньня), якая ўключае ў свае програмы, акрамя агульна палітычных дысцыплін, элемэнты агульнай адукацыі, асновы організацыі вытворчасьці і рацыяналізацыі працы і пытаньне партыйнага будаўніцтва ў сувязі з задачамі парторганізацыі на прадпрыемстве.

У гэтых жа мэтах падрыхтоўкі кадраў партыйнага актыву забясьпечыць (на працягу ўсяго году) правядзеньне мэтавых курсаў падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі парторганізатараў, рабочых-пропагандыстых, колгаснага партактыву і інш.

Крайкомам (абкомам) УсеКП(б), у адпаведнасьці з патрэбамі організацыі ў кадрах нізавога партыйнага актыву, роўна і ў адпаведнасьці з маючыміся кадрамі пропагандыстых, устанавіць і ўзгадніць з культпропаддзелам ЦК цьвёрдую сетку контынгентаў вячэрніх саўпартшкол, вячэрніх комвузаў і мэтавых курсаў падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі партыйнага актыву, з такім разьлікам, каб агульны контынгент навучаючыхся праз гэтыя формы партыйнай асьветы не адставаў ад узрослых патрэб ў організатарскіх кадрах парторганізацыі.

3. Для палепшаньня організацыйна-вучэбных абставін імкнуцца да організацыі на буйных прадпрыемствах (або для групы прадпрыемстваў узбуйненых шматкомплектавых і многазьменных партшкол, зрабіўшы іх базаю для разгортваньня тэорытычнай вучобы і падрыхтоўкі партыйных кадраў на прадпрыемстве.

4. Асаблівую ўвагу ўдзяліць пастаноўцы партыйна-выхаваўчай работы ў вясковых парторганізацыях, маючы на ўвазе паказаньне XVI зьезду УсеКП(б) што „шырока разгорнуты процэс соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі з асаблівай вастратой высоўвае задачу ўзмацненьня вясковай партыйнай організацыі".

Неабходна: а) побач з пачатковай партыйнай школай разгарнуць у вясковых організацыях шырокую сетку школ-перасовак, курсаў-зьездаў вясковых комуністаў і батрацкіх курсаў; б) для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў партыйнага актыву вясковых організацый, як правіла, ва ўсіх раённых цэнтрах у буйных колгасах і саўгасах організаваць базавыя саўпартшколы (па тыпу вячэрніх саўпартшкол на буйных прадпрыемствах); адначасова разгарнуць шырокую сетку спэцыяльных курсаў падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі партыйнага актыву вясковых організацый, скарыстоўваючы часткова для гэтай мэты апарат і пропагандысцкія кадры стацыянарных саўпартшкол с.-г. раёнаў.

Улічваючы ўзрослую патрэбу ў партыйных кадрах нізавой работы, у асаблівасьці ў раёнах суцэльнай колектывізацыі, ЦК ставіць перад крайкомамі (абкомамі) і ЦК нацкомпартыі задачу пашырэньня сеткі стацыянарных саўпартшкол з скарыстаньнем, часткова, вызваленых пры ліквідацыі акруговых організацый памяшканьняў. На працягу 1930-31 г. давесьці сетку стацыянарных саўпартшкол да 160 адзінак, замест цяперашніх 115. Сетку зноў адчыняемых саўпартшкол і цьвёрдыя контынгенты слухачоў па ўсіх спэцыяльных галінах саўпартшкол устанавіць ЦК нацкомпартыі краявым (абласным) комітэтам УсеКП(б) і ўзгадніць з культпропам ЦК УсеКП(б).

5. У сувязі з ростам агульнай і профтэхнічнай адукацыі (рабочых унівэрсытэтаў, вячэрніх тэхнікумаў, курсаў падвышэньня кваліфікацыі, колгасных унівэрсытэтаў і сельска-гаспадарчых курсаў у вясковых раёнах і г. д.) парторганізацыям забясьпечыць падвышэньне ўзроўню вывучэньня агульных палітычных дысцыплін і партыйна-выхаваўчай работы гэтай сеткі і ўзмацненьне яе партыйнымі і пропагандысцкімі кадрамі, асабліва на прадпрыемствах, дзе організуюцца вучэбныя комбінаты для падрыхтоўкі тэхнічных кадраў (заводы, ВНУ, фабрыкі-школы), пры чым вучоба партыйцаў як у сетцы партасьветы, так і ў сетцы масавай рабочай адукацыі павінна ўлічвацца пры ўстанаўленьні іх партнагрузкі.

6. Дабіцца рашучага пералому партыйнага кіраўніцтва комсамолам. Парторганізацыям выдзеліць тэорытычна пад'рыхтаваных работнікаў у дапамогу комітэтам УсеЛКСМ для разгортваньня тэорытычнай вучобы ў комсамоле і для ўзмацненьня пропагандысцкіх кадраў комсамольскай політадукацыі.

7. Культпропаддзелу ЦК разам з радыёцэнтрам НКШіТ організаваць як у цэнтры, так і на мясцох масавую пропаганду марксызму-ленінізму па радыё.

8. Для забеспячэньня шырокага разгортваньня партыйнай асьветы паставіць перад парторганізацыямі задачу падбору і кваліфікацыі кадраў пропагандыстаў шляхам:

а) вылучэньня і падрыхтоўкі кадраў рабочых-пропагандыстых з такім разьлікам, каб ужо ў бягучым вучэбным годзе абслужыць рабочымі-пропагандыстымі ня менш 50 проц. нізавой сеткі партыйнай асьветы ў прамысловых раёнах;

б) організацыі спэцыяльных курсаў падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі вясковых пропагандыстых з складу кадраў батрацкага, бядняцкага і колгаснага актыву вясковых організацый; адначасова неабходна забясьпечыць рэгулярнае скліканьне мэтодычных нарад вясковых пропагандыстых; партыйныя комітэты павінны забясьпечыць пропагандыстых сваячасовай і поўнай інформацыяй аднасна работы і задач партыйнай організацыі;

в) настойлівага правядзеньня дырэктывы ЦК аб прыцягненьні да пропагандысцкай работы партыйных кадраў.

Неабходна ў першую чаргу забясьпечыць дастатковай колькасьцю спрактыкаваных пропагандыстых буйныя, асабліва нанова будуючыяся, прамысловыя прадпрыемствы і буйныя колгасы і саўгасы.

Абавязаць парторганізацыі скарыстаць, як правіла, на пропагандысцкай рабоце ўсіх скончыўшых на працягу 1929-30 г. курсы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі пропагандыстых.

Мясцовым парторганізацыям забясьпечыць павялічэньне ў сыстэме політпрасьветаў складу штатных прапагандыстых для вясковых школперасовак, курсаў-зьездаў, курсаў перападрыхтоўкі розных груп партыйнага актыву ў сельскагаспадарчых раёнах, асабліва ў раёнах суцэльнай колектывізацыі.

9. Устанавіць сыстэматычнае штодзённае кіраўніцтва і праверку становішча партыйнапрапагандысцкай работы з боку парткомітэтаў.

У сувязі з ліквідацыяй акруг ЦК нацкомпартыі і краявым (абласным) комітэтам Усе КП (б) забясьпечыць непасрэдную дапамогу, інструктаваньне і сыстэматычную праверку становішча партыйнай асьветы на прадпрыемствах і ў вясковых організацыях, асабліва з боку марксысцка-ленінскага ўзроўню політычнай вытрыманасьці партыйнай вучобы, з прыцягненьнем да гэтай работы інструктароў мясцовых парткомітэтаў і пазаштатных інструктароў са складу партыйнага актыву.

Культпропаддзелу ЦК паставіць сыстэматычную праверку мясцовых парторганізацый аб становішчы партыйнай асьветы.

10. Паставіць работу ўсяе сеткі партыйнай асьветы на пачатках большай самадзейнасьці і ініцыятывы саміх слухачоў у барацьбе з недахопамі ў рабоце партыйных школ і гурткоў і шырокага скарыстаньня мэтодаў соцыялістычнага спаборніцтва.

Забясьпечыць пастаноўку ў партыйным друку праверкі выкананьня партыйных дырэктыў па пытаньнях партасьветы, высьвятленьня пытаньняў зьместу партыйнай пропаганды, абмену вопытам і крытыкі недахопаў партыйна-асьветнай работы.

# Аб разгортваньні і ўкомплектаваньні сеткі партыйнай асьветы на прадстаячы год

*культпропаддзелам ЦК Нацкомпартыі, краявых і абласных комітэтаў УсеКП(б)*

Рашэньне ЦК ад 13 верасьня 1930 г. „Аб задачах партасьветы" патрабуе ад парторганізацыі асаблівай увагі да пытаньняў організацыі і ўкомплектаваньня партыйных школ і гурткоў. Укомплектаваньне павінна даць далейшы рост сеткі партасьветы, уцягненьне ў партыйную вучобу ўсіх кандыдатаў партыі, шырокіх мас членаў партыі і беспартыйнага актыву (рабочых ударнікаў, батракоў, колгасьнікаў).

Разам з тым пастанова ЦК патрабуе ад парторганізацый падвышэньня марксысцка-ленінскага ўзроўню партыйнай вучобы і забесьпячэньня найбольшай сувязі яе з практычнымі задачамі партыйнай організацыі на прадпрыемствах і ў вёсцы. Увязка партыйнай вучобы з практычнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва павінна дапамагаць ператварэньню партыйных школ і гурткоў у зброю мобілізацыі партыйных і беспартыйных мас і сапраўднай дапамогі парторганізацыям ў правядзеньні важнейшых політычных і гаспадарчых кампаній.

Для бліжэйшага пэрыоду гэта азначае неабходнасьць забясьпечыць ініцыятыву і актыўны ўдзел партыйных школ і гурткоў, пад кіраўніцтвам парторганізацый, у рэалізацыі звароту ЦК ад 3 верасьня бягучага году, у выкананьні гаспадарчага пляну кастрычнік-сьнежань бягучага году, у падрыхтоўцы і выкананьні гіганцкага пляну трэцяга году пяцігодкі, у хлебазагатоўчай кампаніі і ў далейшым разьвіцьці колектывізацыі, у наступным перазаключэньні колдагавароў, у перавыбарах саветаў, у разьвіцьці соцспаборніцтва і ўдарніцтва, у ажыцьцяўленьні ўсеагульнага навучаньня. Выключную ролю павінны адыграць гурткі бягучай політыкі, як найбольш гнуткая форма паглыбленай растлумачальнай работы.

Неабходна адзначыць, што ў шэрагу парторганізацый, асабліва ў сельска-гаспадарчых раёнах, організацыя сеткі і ўкомплектаваньне партыйных школ і гурткоў разгортваецца вельмі марудна, у тэмпах, не забясьпечваючых выкананьне пастановы ЦК ад 13 верасьня бягучага году. У шматлікіх выпадках затрыманьне ў гэтай рабоце спрабуюць тлумачыць перагружанасьцю парторганізацый політычнымі і гаспадарчымі кампаніямі (барацьба з прарывамі ў вытворчасьці, хлебазагатоўкі, асеньняя сяўба і інш.).

Гэтыя выпадкі недастатковай увагі да організацыі і ўкомплектаваньня партыйных школ і гурткоў уяўляюць сабою праяву востра асуджанай пастановай ЦК недаацэнкі партыйнай асьветы і яе ролі ва ўсёй сыстэме партыйнай работы. Партыйныя організацыі павінны ў самы кароткі тэрмін забясьпечыць рашучы пералом у разгортваньні сеткі партыйнай асьветы і правядзеньні гэтай работы на падставе актыўнага ўдзелу ў ёй шырокіх партыйных і беспартыйных мас і мэтодаў соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

У сувязі з гэтым у ажыцьцяўленьне пастановы ЦК неабходна:

1. Зараз жа разгарнуць укомплектаваньне сеткі партыйнай асьветы, як масавую політычную кампанію, увязаўшы яе з рашэньнем XVI зьезду партыі, важнейшымі пытаньнямі бягучай політыкі партыі і практычнымі задачамі партыйнай работы на прадпрыемстве і ў вёсцы.

Пастанова ЦК аб задачах партыйнай асьветы і практычныя пытаньні організацыі і ўкомплектаваньне партыйных школ і гурткоў павінны быць абгавораны на бюро парткомітэтаў і партячэек, сходах партыйнага актыву, агульных партыйных і рабочых сходах. Асаблівую ўвагу неабходна ўдзяліць укомплектаваньню сеткі, ні ў якім выпадку не спадзяючыся на самацёк. Для ўкомплектаваньня сеткі партыйнай асьветы організаваць там, дзе гэта работа яшчэ не праведзена, асабліва на вялікіх прадпрыемствах, комісіі па ўкомплектаваньню, забясьпечыўшы правядзеньне кароткатэрміновых (1-2 дні) інструкцыйных курсаў-конфэрэнцый для ўдзельнікаў гэтых комісій. Ажыцьцёвіць адзіны плян укомплектаваньня сеткі партыйнай асьветы, комсамольскай політадукацыі, агульнай і профтэхнічнай адукацыі, школ і гурткоў політасьветы па лініі профсаюзаў, аб'яднаўшы гэту працу ў агульных комісіях.

У організацыі і ўкомплектаваньні ўсіх відаў вучобы ўжыць мэтоды культпаходаў, культэстафэты, дапамогі адстаючым організацыям (грамадзкага буксіру) і г. д.

Парткомітэтам неабходна ўстанавіць сыстэматычную праверку разгортваньня і ўкомплектаваньня сеткі партыйнай асьветы.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на разгортваньне партыйна-асьветнай работы ў вясковых організацыях. Для дапамогі вясковым організацыям у разгортваньні і ўкомплектаваньні сеткі партыйнай асьветы практыкаваць пасылку ў сельска-гаспадарчыя раёны часовых пропгруп, інструктарскіх груп (з прыцягненьнем да гэтай работы пазаштатных работнікаў са складу партыйнага актыву), пропагандысцкіх брыгад, шэфствуючых прадпрыемстваў і г. д.

Культпропаддзел ЦК УсеКП(б) абавязвае культпропаддзелы ЦК нацкомпартыі, краявых і

абласных комітэтаў УсеКП(б) не пазьней 1 лістапада бягучага году паведаміць у ЦК папярэднія вынікі разгортваньня партыйнай асьветы ў організацыі.

2. Пачаць работу сеткі партыйнай асьветы (пачатковых партшкол, вячэрніх саўпартшкол, гурткоў бягучай палітыкі і інш.) з прапрацоўкі пытаньняў аб чарговых задачах партыйнай організацыі ў сувязі з зваротам ЦК ад 3 верасьня бягучага году і рашэньнем ураду аб перанясеньні гаспадарчага году на 1 студзеня. У сельска-гаспадарчых раёнах гэтыя пытаньні павінны быць прапрацаваны ў непасрэднай сувязі з ходам і вынікамі хлебазагатовак, асеньняй сяўбы і задачамі далейшага разьвіцьця колектывізацыі.

Гэтым пытаньням павінна быць адведзены першыя заняткі партыйных школ і гурткоў. Неабходна забясьпечыць інструктаваньне пропагандыстых па гэтых пытаньнях шляхам пастаноўкі дакладаў кіруючых работнікаў організацыі (сэкратароў, членаў бюро парткомаў) на сходах пропагандыстых, высьвятленьня гэтых пытаньняў у друку.

3. Праверыць забесьпячэньне сеткі партыйнай асьветы пропагандысцкімі кадрамі, у якой меры скарыстаны пропагандысцкія рэзэрвы, у асаблівасьці рабочыя-пропагандыстыя, якія прайшлі спэцыяльную пропагандысцкую падрыхтоўку, правільнасьць разьмеркаваньня пропагандысцкіх кадраў у організацыі і г. д.

Разам з тым неабходна з самага пачатку заняткаў у сетцы партыйнай асьветы забясьпечыць рэгулярную работу пропагандысцкіх сэмінараў, сыстэматычнае інструктаваньне пропагандыстых па важнейшых пытаньнях бягучай палітыкі партыі і задачах практычнай партыйнай работы ў організацыі, сыстэматычнае падвышэньне тэорытычнага ўзроўню пропагандысцкіх кадраў, у прыватнасьці, шляхам організацыі для пропагандыстых лекцый і дакладаў па асноўных пытаньнях тэорыі марксызму-ленінізму. Асаблівая ўвага пры гэтым павінна быць зьвернута на організацыю дапамогі ў рабоце і тэорытычную перападрыхтоўку рабочых-пропагандыстых.

4. Культпропаддзел паведамляе, што програмы для партыйнай асьветы (пачатковых партшкол, па палітэкономіі, гісторыі УсеКП(б), гістмату, соцрэконструкцый сельскай гаспадаркі) вышлі з друку і рассылаюцца парторганізацыям; програмы по экономпалітыцы, гісторыі міжнароднага рабочага руху і ленінізму выйдуць з друку і будуць разасланы парторганізацыям у канцы верасьня. Для пачатковых партыйных школ у якасьці асноўнай дапамогі выходзяць з друку (у пачатку кастрычніка) першыя выпускі часопісі-падручніка. Дадатковай дапамогай для пачатковых партыйных школ павінны быць падручнік Кержанцава „Памятка бальшавіка“ (для менш падрыхтаванага чытача), падручнік Кержанцава і Леонцьева „Азбука ленінізму“ (пераапрацованае выданьне для больш падрыхтаванага чытача) і падручнік Альховага „Азбука ленінізму“ (пераапрацаванае выданьне для вясковай сеткі). Тыражы першых двух падручнікаў выходзяць з друку ў канцы верасьня, падручнік Альховага—у сярэдзіне кастрычніка.

Падручнікі і вучэбныя дапаможнікі для сярэдніх зьвеньняў партыйнай асьветы (марксысцка-ленінскіх гурткоў, вячэрніх саўпартшкол і комвузаў), за невялікім выключэньнем, (Сталін „Асновы ленінізму“, дапоўненае выданьне) выйдуць з друку пазьней, з прычыны карэннай пераапрацоўкі падручнікаў, асабліва ў сувязі з рашэньнямі XVI зьезду часткова (па гісторыі УсеКК(б) і гістмату) у кастрычніку і часткова (па палітэкономіі і экономічнай палітыцы) у лістападзе (тэрміны выхаду гэтых падручнікаў будуць у бліжэйшыя дні апублікованы ў друку).

Культпропаддзел ЦК прымае шэраг захадаў да паскарэньня выхаду падручнікаў (выпуск падручнікаў часткамі і інш.).

Побач з гэтым падрыхтаваны да друку і будуць выданы ў якасьці вучэбных дапаможнікаў сэрыі вучэбных артыкулаў (па экономічнай палітыцы) і вучэбных заданьняў з рабочымі матар'яламі (па другіх асноўных дысцыплінах марксызму-ленінізму і пытаньнях бягучай палітыкі) па лініі часопісі „У дапамогу партвучобе“.

Разам з тым, улічваючы спазьненьне з выхадам падручнікаў і абмежаванасьць першых іх тыражоў (у сувязі з абмежаванасьцю рэсурсаў паперы) парторганізацыям неабходна:

1) забясьпечыць організаванае разьмеркаваньне літаратуры для партасьветы з тым, каб у першую чаргу задаволіць патрэбу організаванай сеткі партасьветы і рабочай адукацыі;

2) забясьпечыць скарыстаньне ў рабоце партыйных школ і гурткоў па шэрагу дысцыплін (гісторыя УсеКП(б), ленінізм, гісторыя міжнароднага рабочага руху і інш.) маючыхся ў кнігагандлёвых організацыях, бібліотэках, партгабінэтах, у пропагандыстых і слухачоў вучэбнай літаратуры мінулых выданьняў, матар'ялаў XVI зьезду (даклады на зьезьдзе і г. д.).

Заг. культпропаддзелам
ЦК УсеКП(б) *А. Стэцкі*

# Задачы партыйнай асьветы

*на 1930-31 навучальны год*

## Пастанова сэкратарыяту ЦК КП(б)Б ад 1 кастрычніка б. г.

1. У выніку недаацэнкі некаторымі партыйнымі організацыямі значэньня партыйнае асьветы, як зброі змаганьня за генэральную лінію партыі, у 1929-30 г. назіраўся значны адсеў у сетцы партасьветы, а ў некаторых мясцох і поўны зрыў партвучобы.

Нават і там, дзе партвучоба праводзілася, партшкола не зьяўлялася застрэльшчыкам у барацьбе з ухіламі ад генэральнай лініі партыі, мала мобілізавала слухачоў на змаганьне з „левымі" перагібамі ў галіне колектывізацыі, на выкрыцьцё нацыяналістычных ухілаў, ня здолела ў выстарчальнай меры ўвязаць партвучобу з практычнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва (выкананьне прамфінпляну, пытаньні ўдарніцтва і г. д.).

2. Ва ўмовах разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце і абвастрэньня клясавай барацьбы ў краіне, пры ўзрослай актыўнасьці рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас насельніцтва, якая выявілася ў новых формах барацьбы за соцыялістычную організацыю работы (сустрэчны прамфінплян, грамадзкі буксір, вытворчыя манэўры і г. д.), пры нячуваных шпаркіх тэмпах індустрыялізацыі краіны, соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, павароту партыі да політыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнае колектывізацыі, роля і політычнае значэньне масавае і партыйнае асьветы, як аднэй з важнейшых зброй у змаганьні за генэральную лінію партыі, значна ўзрастае.

3. Асноўны зьмест партыйнае вучобы на бліжэйшы пэрыод часу павінен вызначыцца наступнымі задачамі:

а) пропаганда пастаноў XVI зьезду ЎсеКП(б), XIII зьезду КП(б)Б і важнейшых пастаноў партыі;

б) выкрыцьцё і барацьба з буржуазнымі і дробна-буржуазнымі тэорыямі, тэорыяй і практыкай правага опортунізму, як галоўнай небясьпекай на гэтым этапе, „левымі" загібамі, саюзьнікамі правага опортунізму, і з прымірэнцтвам да ўхілаў ад ленінскай лініі партыі;

в) растлумачэньне нацполітыкі партыі, барацьба з вялікадзяржаўным, найбольш небясьпечным шовінізмам, з беларускім контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам—дапаможнікам інтэрвэнцыі, барацьба з нацыянал-опортунізмам і шовінізмам розных колераў і адценьняў;

г) асьвятленьне пытаньняў політыкі, тактыкі і задач Комінтэрну ва ўмовах сусьветнага крызісу імпэрыялістычнай сыстэмы і новага рэволюцыйнага ўздыму;

д) ажыцьцяўленьне непарыўнае сувязі партвучобы з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва, абярненьне ўсёй сеткі партвучобы ў зброю мобілізацыі партыйных і беспартыйных мас на актыўны ўдзел у правядзеньні важнейшых політычных і гаспадарчых кампаній (выкананьне прамфінпляну, колектывізацыя, збожжазагатоўкі і г. д.).

ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае неабходнасьць вызначэньня ў сетцы партасьветы ня менш ⅓ навучальнага часу пытаньням бягучае політыкі.

4. ЦК лічыць, што галоўнымі задачамі партыйнае асьветы ў сучасных умовах павінны зьявіцца:

а) партыйна-політычнае выхаваньне новых кандыдацкіх мас, якія ўліваюцца ў партыю, і шырокіх кадраў беспартыйнага актыву, у мэтах узмацненьня вярбоўкі ў партыю перадавых рабочых, работніц, колгасьнікаў, батракоў і вясковай беднаты;

б) павышэньне марксысцка-ленінскага ўзроўню ўсёй масы членаў партыі;

в) тэорытычная падрыхтоўка шырокіх кадраў партактыву;

г) практычная падрыхтоўка кадраў партактыву для розных галін партыйнае работы.

5. ЦК у адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б) ад 13 верасьня г. г. зацьвярджае наступную сыстэму партыйнае асьветы на надыходзячы навучальны год і лічыць, што пры пабудове сеткі партыйнае асьветы неабходна выходзіць з вытворчага прынцыпу, організуючы школы і гурткі непасрэдна на буйных прадпрыемствах, саўгасах і колгасах:

а) пачатковая і кароткатэрміновая партшколы з 3-4-месячным навучаньнем у горадзе і ў вёсцы ў якасьці асноўнай формы партыйна-політычнага выхаваньня членаў партыі, кандыдацкіх мас і партыйнага актыву з програмай навучаньня, якая падводзіць слухачоў да ўразуменьня агульнаполітычных ведаў, програмы партыі, абавязкаў членаў партыі на падставе вывучэньня актуальных, бягучых задач соцыялістычнага будаўніцтва і партыйнае асьветы.

поруч з пачатковай школай, у якасьці нізавога зьвяна, практыкаваць газэтныя гурткі, кароткатэрміновыя гурткі па прапрацоўцы асобных пытаньняў політыкі партыі, кароткатэрміновыя курсы ў зьвязку з правядзеньнем масавых, політычных і гаспадарчых кампаній;

б) асноўнай формай сярэдняга зьвяна партыйнай асьветы лічыць двухгадовую вячэрнюю

саўпартшколу з закончаным цыклем першага году навучаньня, разьлічаную на падрыхтоўку шырокіх кадраў нізавога актыву. Пры гэтых саўпартшколах неабходна арганізаваць у сельскагаспадарчых раёнах кароткатэрміновыя курсы, зьезды батракоў і вясковых комуністых, прыцягваючы на гэтыя курсы беспартыйны актыў;

в) для ахопу розных груп партыйнага актыву разгарнуць таксама сетку:

1) марксысцка-ленінскіх прадметных гурткоў, разьлічаных на сыстэматычнае вывучэньне партактывам паасобных тэорытычных дысцыплін;

2) гурткоў бягучае палітыкі павышанага тыпу;

3) тэматычных гурткоў па асобных тэорытычных і практычных пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва і партыйнае работы;

г) для ахопу цэнтральнага кіруючага актыву скарыстаць у шырокім маштабе формы завочнай вучобы ІЧП, Комакадэміі. Ленінградзкі і Сьвярдлоўскі комвузы. КУВ і г. д.;

д) у мэтах ахопу тэорытычнай вучобай кіруючага раённага актыву,—арганізаваць у гарадох і раёнах сетку вячэрніх і дэкадных комвузаў і цыкль тэорытычных лекцый і дакладаў;

е) арганізаваць пры комзузе, Гомельскай саўпартшколе 3-месячныя курсы раённага і нізавога актыву, якія-б стала дзейнічалі;

ж) разгарнуць работу Дому Партасьветы ЦК, разьлічыўшы на ахоп кароткатэрміновымі курсамі (6-8 тыдняў) членаў ЦК, ЦКК, членаў Бюро РКІ і сэкратароў буйных вытворчых колектываў.

ЦК зварочвае асаблівую ўвагу ўсіх парторганізацый на неабходнасьць бесьперапыннага комплектаваньня ўсіх зьвеньняў у працягу ўсяго навучальнага году па меры вербаваньня новых таварышоў.

5. Адзначаючы нездавальняючае становішча тэорытычнай вучобы кіруючага партактыву, ЦК зварочвае ўвагу ўсіх організацый на задачу 100 проц. ахопу марксысцка-ленінскай вучобай актыву, захоўваючы добраахвотнасьць выбару форм вучобы.

ЦК лічыць неабходным прадставіць для заняткаў партактыву, апрача поўнага выкарыстаньня дзён адпачынку, яшчэ да 5 вечароў у месяц.

6. Прызнаць неабходным навучальны год у нізавой сетцы партыйнае асьветы ў горадзе і ў вёсцы пачаць з 5 кастрычніка, а ў сярэдніх і вышэйшых зьвеньнях—не пазьней 1 лістапада.

Даручыць культпропу ЦК распрацаваць, а фракцыі БДВ тэрмінова выдаць програмы і падручнікі для сеткі партасьветы на беларускай і нацыянальных мовах, паставіўшы на зацьвярджэньне Сэкратарыяту ЦК сьпіс програм і падручнікаў з вызначэньнем тыражу і тэрмінаў іх выхаду.

7. Прымаючы пад увагу цякучасьць пропагандысцкага складу ў сетцы партыйнае асьветы, ЦК прапануе РК замацаваць прапагандыстых за сеткай партасьветы на ўвесь навучальны год і не адрываць іх на іншыя работы.

У мэтах павялічэньня пропагандысцкіх кадраў пашырыць практыку вылучэнства пропагандыстых з ліку партыйцаў-рабочых і колгасьнікаў.

8. У зьвязку з ліквідацыяй акруговага зьвяна партыйнага кіраўніцтва, ЦК лічыць неабходным—рашучае узмацьненьне кіраўніцтва партвучобай у раёне, укомплектаваньне лепшымі пропагандысцкімі кадрамі нізавой сеткі партыйнае асьветы і сыстэмы тэорытычнае вучобы раённага партактыву.

9. ЦК прапануе РК і ГК рашуча палепшыць кіраўніцтва справай партасьветы, заслухоўваючы на бюро РК і ГК даклады аб комплектаваньні партсеткі, ходзе вучобы і выніках вучобы.

У дні вучобы ніякіх нагрузак тым, што займаюцца вучобай, не даваць.

10. Улічваючы палітычнае значэньне своечасовага і поўнага разгортваньня і ўкомплектаваньня сеткі партыйнае асьветы слухачамі, ЦК даручае ГК, РК узмацніць кіраўніцтва кампаніяй па вярбоўцы ў партсетку, праводзячы спэцыяльныя сходы ячэек і сходы партактыву па пытаньнях вучобы.

Рэдакцыям цэнтральных і раённых газэт, шматтыражкам і насьценным газэтам забясьпечыць шырокае асьвятленьне ходу разгортваньня новага навучальнага году ў сетцы партыйнае асьветы.

11. У мэтах узмацненьня мэтодычнага кіраўніцтва партвучобай пацьвердзіць пастанову Ўсебеларускай культпропнарады аб організацыі партыйных габінэтаў ва ўсіх раёнах, на буйных вытворчых прадпрыемствах і аб рэорганізацыі Менскага Дому Комасьветы ў Цэнтральны Дом Комасьветы.

# БІБЛІОГРАФІЯ

## „Текущая политика в вопросах и ответах“

Издание „Московский рабочий“. *Цена 8 коп. 55, стр. Тираж 100 тыс.*

Выдавецтва „Московский Рабочий“ зараз 2 разы ў месяц пачало выдаваць популярна напісаныя брошуры па пытаньнях бягучай політыкі. Патрэба ў выданьні такіх брошурак ёсьць вялікая. Нізавому пропагандысту і агітатару, комсомольцу, рабочаму на прадпрыемстве—і наогул нізавому чытачу будзе карысна азнаёміцца з гэтымі брошурамі. Кампоўнасьць выпускаў у тым, што яны прысьвячаны злобадзённым пытаньням і даюць сыстэматызаваны і абагулены матар'ял.

Рэцэнзуем *трэці выпуск*, прысьвячаны пытаньням нацыянальнай політыкі які прэтэндуе на тое, каб у сьцісла-популярнай форме даць адказы па шэрагу найбольш актуальных пытаньняў нацыянальн. політыкі. Такіх пытаньняў у брошуры налічваецца шэсьць. Разгледзім іх па парадку.

*У чым сутнасьць вялікарасейскага шовінізму*. На прыкладах вырашэньня нацыянальнай політыкі царскай Расеяй і паказу конкрэтных носьбітаў вялікарасейскага шовінізму (гандляр—прыватнік, выкінуты са школы настаўнік русіфікатар, чыноўнік і г. д.) мы ў брошуры знаходзім адказ на пастаўленае пытаньне (як і у астатніх адказах) *клясавая* сутнасьць вялікарасейскага шовінізму.

У адказе адзначана і праніканьне вялікарасейскага шовінізму ў шэрагі партыі, разважаньні аб „зьліяньні ўсіх нацый у адну“ (у эпоху соцыялізму), і таму ігнараваньне будаўніцтва нацыянальных культур і прапановы аб згортваньні нацработы—ёсьць па сутнасьці праявы вялікарасейскага шовінізму пад прыкрыцьцем “інтэрнацыяналізму“; „ня можа быць сумненьня, што гэты ўхіл у нацыянальным пытаньні, які прыкрываецца да таго-ж маскай інтэрнацыяналізму і імем Леніна, зьяўляецца самым утончаным і таму самым небясьпечным выглядам вялікарасейскага шовінізму“. (Сталін).

*У чым сутнасьць мясцовага нацыяналізму.*

У адказ на гэтае пытаньне мы знаходзім вядомую вытрымку з дакладу тав. Сталіна на XVI-м зьезьдзе партыі. У гэтай вытрымцы сьцісла і проста сформулявана сутнасьць мясцовага нацыяналізму.

Матар'ялы пасьля вытрымкі Сталіна ілюструюць асновныя палажэньні гэтага пытаньня і пацьвярджаюць правільнасьць вывадаў на матар'ялах асобных Саюзных Рэспублік. Між іншым у якасьці прыкладу прыводзяцца весткі аб Беларусі.

Пытаньне аб сутнасьці мясцовага нацыяналізму распрацавана больш поўна, чым астатнія.

### Каму выгадна розьнь паміж нацыянальнасьцямі

У адказ на гэтае пытаньне пададзены цікавыя гісторычныя матар'ялы. Зусім правільна адзначаецца, што:

> „розьнь паміж нацыянальнасьцямі выгадна была раней за ўсё тым, хто жыў эксплёатацыяй адсталага, забітага сялянства, усім кулаком, панам, папом бюрократам“. (стр. 29).

Зноў такі падкрэсьліваецца клясавасьць у гэтым пытаньні. Так, напрыклад, мы на старонцы 27 чытаем:

> „Падтрымліваючы латыскі нацыянальны рух супроць немцаў, урад (царскі М. Х.) у той-жа час у 1906 г. дапамагаў нямецкім баронам патапіць у крыві латыскіх сялян пры іх спробе па свойму расправіцца з сваімі памешчыкамі“.

### На чый млын льлюць ваду антысэміты

Усюды антысэмітызм зьяўляецца прыладай прыгнетацеляў супроць росту рэволюцыйнай сьвядомасьці мас. Гэта палажэньне распрацавана досыць поўна ў адказе.

Удала падабраныя вытрымкі з твораў Леніна даюць у сьціслай форме адказ на пастаўленае пытаньне.

Пятае пытаньне ў агульных рысах дае зьвесткі аб факце, што здарыўся ў Сталінградзе з двума амерыканскімі рабочымі, якія зьбілі нэгра. Гэтыя матар'ялы досыць шырока вядомы нашаму чытачу з газэтных паведамленьняў.

### Практычныя дасягненьні савецкай улады ў правядзеньні нацыянальнай політыкі.

Гэты разьдзел брошуры можна было-б распрацаваць найбольш поўна. Бурны рост соцыялістычнага будаўніцтва нацыянальных акраін, рост нацыянальнай культуры адсталых нацыянальнасьцяй,—па ўсіх гэтых пытаньнях можна было даць дастаткова ўсебаковы матар'ял.

На жаль, мы ў брошуры знаходзім больш агульных вывадаў аб дасягненьнях у правядзеньні нацполітыкі і менш фактычнага матар'ялу, што было-б надзвычайна карысна.

Некалькі слоў аб недахопах брошуры. Гэтыя недахопы зводзяцца да наступнага:

1. У брошуры не паказана з дастатковай яскравасьцю, чаму вялікарасейскі шовінізм, зьяўляецца небясьпечным на данным этапе. Гэтае пытаньне патрабуе большай распрацоўкі ў нашай літаратуры і дрэнна, што яно не атрымала дастатковай распрацоўкі ў дадзенай брошуры.

2. Вядома, што мясцовы нацыяналізм, а ў нашых умовах—беларускі нацыяналдэмократызм зьяўляецца дапаможнікам інтэрвентаў. Гэта досыць падрабязна распрацована ў партыйнай літаратуры КП(а)Б. У брошуры мы ня маем дастаткова здавальняючага адказу на гэтае пытаньне.

Ня гледзячы на асобныя адзначанныя недахопы, брошура будзе карысным дапаможнікам нашаму партыйнаму чытачу. Варта было-б і Белдзяржвыдавецтву паклапаціцца аб рэгулярным выданьні такіх матар'ялаў.

М. Хмуры.

# ХРОНІКА ПАРТРАБОТЫ

## У ЦК КП(б)Б

### Больш увагі працы „Аўтадору“

Агітмасавы аддзел ЦК КПБ даслаў ліст усім РК КПБ, у якім адзначае, што мясцовы транспорт, грунтовыя шляхі яшчэ да гэтага часу зьяўляюцца вузкімі месцамі ва ўсёй сыстэме народнай гаспадаркі БССР. Асабліва гэта адчуваецца зараз у час асеньняга бездарожжа ва ўмовах узмоцненых перавозак і хлебазагатовак. Ня гледзячы на бюджэтныя асыгнаваньні Ўрадам на справу аўтомобілізацыі, трактарызацыі і палепшаньня дарожнай гаспадаркі БССР, гэтая справа патрабуе максымальнай увагі да прыцягненьня шырокай грамадзкай самадзейнасьці і фінансавых магчымасьцяў на мясцох.

У гэтай справе асаблівую важнасьць набывае ў сучасны момант. організацыя „Аўтодор“. Райком КПБ у большасьці да гэтага часу ніякай ўвагі рабоце раённых організацый „Аўтодору“ не зварочвалі, не адчувалася партыйнае кіраўніцтва і ў рабоце ячэяк Аўтодору на прадпрыемствах, установах, колгасах і саўгасах.

Агітмасавы аддзел ЦК запрапанаваў усім РК КПБ зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзмацненьне работы т-ваў „Аўтодор“, ужыць усе захады, каб дапамагчы далейшаму разгортваньню дзейнасьці аўтодораўскіх організацый, у тых раёнах, дзе няма аддзяленьняў Аўтодору неабходна вылучыць актыўныя ініцыятыўныя групы для аформленьня гэтых аддзяленьняў.

### Аб накапленьні паёў у спажывецкай коопэрацыі

У мэтах пасьпяховага выкананьня пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаньню аб накапленьні паёў у спажывецкай коопэрацыі агітмасавы аддзел ЦК разаслаў ліст усім раённым парторганізацыям, дзе прапануе разгарнуць шырокую масавую работу і організацыю мас пайнікаў спажывецкай коопэрацыі на стопроцантнае выкананьне контрольных лічбаў па паянакапленьню.

Для правільнага правядзеньня гэтага важнейшага мерапрыемства партыі і ўраду ліст дае падрабязныя паказаньні, што пытаньне па паянакапленьні ў коопэрацыі у гарадох трэба абгаварыць на адчыненых партыйных і комсамольскіх сходах, на прадпрыемствах і ва ўстановах. Побач з растлумачальнай работай намеціць шэраг практычных мерапрыемстваў па выкананьню рашэньняў ЦК і сыстэматычнай праверкі выкананьня.

Шырокую растлумачальную кампанію, правесьці перш за ўсе сярод актыву і членаў праўленьня спажывецкай коопэрацыі, праз сходы коопкомісіі крамных комісій, коопорганізатараў і зборшчыкаў-вярбоўшчыкаў.

Правесьці агульныя сходы пайнікаў, на якіх абгаварыць мерапрыемствы, прынятыя праўленьнем спажывецкай коопэрацыі для выкананьня паянакапленьня.

Асаблівую ўвагу зьвярнуць на ўцягненьне ў коопэрацыю ўноў прыбыўшых на вытворчасьць рабочых, шляхам скліканьня спэцыяльных сходаў гэтых груп рабочых, організаваўшы вярбоўку іх у коопэрацыю.

Прыцягнуць да гэтае работы профорганізацыі, асабліва нізавы профактыў, добраахвотныя таварыствы, шырока прымяняючы ў гэтай рабоце організацыю брыгад і грамадзкага буксіру.

Правесьці адпаведную работу на дэлегацкіх сходах работніц, організуючы праз іх усіх работніц, хатніх гаспадынь, жонак рабочых і служачых і саматужніц для прыцягненьня іх у гэтую працу.

Для шырокага растлумачэньня сярод членаў савету і рабочага актыву значэньня паянакапленьня ў коопэрацыі ў справе мобілізацыі грашовых сродкаў насельніцтва на справу соцыялістычнага будаўніцтва, правесьці паседжаньні горвыканкомаў і райсаветаў з удзелам савецкага, коопэрацыйнага і профсаюзнага актыву.

На вёсцы асаблівую ўвагу зьвярнуць на збор паявых узносаў, організацыю с. г. рабочых, колгасьнікаў і беднаты на выкананьне гэтае задачы.

Ва ўсёй гэтай рабоце як у горадзе, так і на вёсцы разгарнуць мэтоды соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва паміж групамі актыву, зборшчыкамі, коопбюро, групамі пайнікаў і г. д. Для лепшых актывістых і зборшчыкаў увесьці сыстэму прэм'яваньня.

### Брыгада па абсьледваньню культмасавай працы

Культпроп ЦК КП(б)Б у некаторыя раёны даслаў брыгады для абсьледваньня партвучобы культурна-масавае працы наогул. Брыгады таксама абсьледуюць становішча партасьветы, працу політасьветных установ, становішча настаўніцтва і рабселькораўскага руху.

Выезд брыгад ставіць сваёй мэтай дапамагчы раённым парторганізацыям, дабіцца рашучага пералому у гэтых галінах працы.

Надаючы вялікае значэньне той працы, якую будуць выконваць брыгады, культпроп ЦК КП(б)Б у сваім лісьце прапанаваў РК КП(б)Б прыняць адпаведныя захады да мобілізацыі вакол гэтае працы ўвагі ўсіх партыйных організацый і савецкай грамадзкасьці.

Праца брыгад працягнецца да 15 дзён.

# МЭТОДАРАСПРАЦОЎКІ

## Саветы на сучасным этапе социялістычнага будаўніцтва

### Мэта тэмы

На аснове праробленага матар'ялу паказаць, што саветы зьяўляюцца галоўным арудзьдзем рабочае клясы ў будаўніцтве соцыялізму.

Высьветліць мэту і задачы саветаў у рэконструкцыйны пэрыод і політычнае значэньне кампаніі перавыбараў саветаў.

| Пытаньні для праپрацоўкі | Методычныя заўвагі |
|---|---|
| **1. Савецкая дзяржава, як дзяржава пераходнага пэрыоду** | |
| 1. Саветы, як дзяржаўная форма дыктатуры пролетарыяту.<br>„Памятка бальшавіка" Керженцев Гіз. 1930 году стар. 69-71. | Гутарку належыць пачать з таго, што савецкая дзяржава для пролетарыяту ёсьць арудзьдзе яго дыктатуры, ярка вызначанай жалезнай дыктатуры, накіраванай супроць эксплёататарскіх клясаў, улада большасьці працоўных супроць нікчэмнай кучкі эксплёататараў, пры гэтым паказаць на словы т. Сталіна, дзе ён кажа: „Победить буржуазию, свергнуть ее власть революцыя сможет и без диктатуры пролетарыата, но подавить сопротивление буржуазии, сохранить победу и двинуться дальше к окончательной победе социализма революция не в состоянии, если она не создаст органа в виде диктатуры пролетарыята„. Значыць, саветы, як форма дыктатуры пролетарыяту, ёсьць неабходнасьць, бяз якой ня можа быць і размовы аб будаўніцтве соцыялізму.<br>Высьветліць, якія непасрэдныя задачы стаяць перад пролетарыятам, і як ён іх вырашае. |
| 2. У чым асноўн. асаблівасьць савецкай дзяржавы ў адзнаку ад буржуазнай.<br>„Памятка бальшавіка" стар. 66-68, 71-73.<br>Суцэльная колектывізацыя і задачы саветаў.<br>Калінін, Енукідзе. ГІЗ, 1930 г., стар. 17-22. | Абмяркоўваючы другое пытаньне, трэба паказаць што Савецкая дзяржава ёсьць новы тып дзяржавы, якая прынцыпова адрозьніваецца ад буржуазнай як па клясавай сутнасьці, так і па ўнутранай структуры. Прасьлядзіць, у чым вызначаецца гэта адзнака: апора дыктатуры пролетарыяту на большасьць працоўных мас, сьвядомае падтрыманьне пролетарыяту і сялянства, іншая выбарчая сыстэма, забясьпечваючая працоўным уладу і перамогу над эксплёататарамі, забясьпечвае вышэйшую форму пролетарскай дэмократыі ў адзнаку ад „поўнай дэмократыі" на словах у буржуазных краінах.<br>Савецкая ўлада ёсьць ўлада пераходнага к соцыялізму тыпу, якая павінна адмерці са зьнішчэньнем клясаў. |
| 3. Як вырашана нацыянальнае пытаньне пролетарыятам у Савецкім Саюзе.<br>„Памятка бальшавіка", стар. 74-75. | Таксама і вырашэньне нацыянальнага пытаньня. Вырашыць нацыянальную проблему можа толькі пролетарыят пасьля заваяваньня ўлады. Далей абмеркаваць пытаньне: што значыць лёзунг „права на самавызначэньне нацыі". Як забясьпечвае гаспадарчая і культурная дапамога адсталым народнасьцям. Прасачыць нацыянальную політыку на прыкладах БССР. Зрабіць адгэтуль вывад. Дыктатура пролетарыяту, зьнішчаючы капіталістычную сыстэму, кладзе канец нацыянальнаму ўціску. |
| 4. Чаму будаўніцтва соцыялізму і застава посьпеху немагчыма без уцягненьня самых шырокіх мас працоўных. | Мы будуем нашу дзяржаву, апіраючыся на масы працоўных, уцягваючы іх у кіраўніцтва. |

| Пытаньні для прапрацоўкі | Мэтодычныя заўвагі |
| --- | --- |

### II. Роля і задачы саветаў ва ўмовах рэконстракцыйнага пэрыоду

1. Як павінна быць перабудавана работа саветаў і ўсяго дзярж. апарату ў сувязі з новымі задачамі рэконструкцыйнага пэрыоду.

Суцэльная колектывізацыя і задачы саветаў.

Калінін і Енукідзэ. стар. 7-12, 47-59.

2. Якое значэньне мае скасаваньне акругі.

„Сав. Белар." 23/Х.

3. У чым памылка і опортуністычнасьць лёзунгу скасаваньня саветаў у раёнах суцэльнае колектывізацыі.

Калінін—Енукідзэ стар. 12-17, 30-32.

4. Якая павінна быць аказана дапамога рабочае клясы ў перабудове работы саветаў на вёсцы.

Калінін—Енукідзэ, стар. 47-48.

Ахарактарызуйце кароценька пэрыоды і розныя пастаноўкі пытаньня аб рабоце саветаў, потым, пераходзячы к рэконструкцыйнаму пэрыоду, паказаць, што перад саветамі стаяць новыя задачы. Высьветліць гэтыя задачы. Што значыць паварот саветаў тварам да індустрыялізацыі, тварам да колгасаў, да сацыялістычнай перабудовы вёскі і да рашэньня задачы ліквідацыі кулацтва як клясы. Пры гэтым падкрэсьліць, што пастаноўка і вырашэньне гэтых задач зусім несумяшчальны з паняцьцямі па гэтым пытаньні троцкістых і правых опортуністых. Такім чынам, пасьля пытаньня, як павінна быць перабудавана работа саветаў, каб стаць на чале кіраўніцтва гэтых задач, перайсьці к пастаноўцы пытаньня аб ліквідацыі саветаў і замене іх новымі організацыямі, як гэта прапануюць опортуністыя. Чаму гэты лёзунг як на сваёй сутнасьці, так і па зьместу опортуністычны?

Скасаваньне акругі мае вялікае значэньне ў сэнсе найбольшага набліжэньня апарату да раёнаў і вёсак. Раён, асноўнае зьвяно соцбудаўніцтва, зьвязваецца непасрэдна з вобласьцю, краем, рэспублікай. На занятках прасачыць, як у вас прайшла ліквідацыя акругі і як ідзе перабудова працы ў раёне. Перабудова работы саветаў павінна прайсьці пад лёзунгам мобілізацыі мас за бальшавіцкія тэмпы соцрэконструкцыі краіны ў барацьбе за генэральную лінію партыі. Далей каротка застанавіцца на пытаньнях бюрократызму і ролі самакрытыкі ў барацьбе з ім, чыстцы апарату, шэфстве прадпрыемстваў над дзяржустановамі стварэньні, рабочых брытад і г. д.

### III. Палітычнае значэньне і задачы чарговай кампаніі перавыбараў саветаў

1. Якая міжнародная і ўнутраная ўстаноўка прадстаячых перавыбараў саветаў.

„Правда", 28/IX і 27/Х-30 г.

2. Як павінна быць павышана актыўнасьць выбараў у перавыбарчай кампаніі.

„Сав. Бел.", 23/Х, 11/Х, 5/Х.

3. Палажэньне і інструкцыя аб выбарах у саветы.

„Правда", 10/Х-1930 г.

Пераходзячы да разбору пытаньняў апошняга разьдзелу, неабходна паказаць, што перавыбарчая кампанія саветаў праходзіць у пачатку 3-га году 5-годкі ва ўмовах разгорнутага на ўсіх фронтах соц. наступленьня і абвастрэньня клясавае барацьбы ў краіне. Вось чаму гэтыя перавыбары будуць мець выключна палітычнае значэньне

Пасьля вырашыць некаторыя практычныя пытаньні, якія датыкаюцца да перавыбарчай кампаніі.

Літаратура: Калінін, Енукідзэ.—„Суцэльная колектывізацыя і задачы саветаў".ДВЗ.1930г.(Рэкамэндуецца перагледзець увесь матар'ял), „Спутнік комуніста на вёсцы, кастр. 30 г., № 7, арт. Зайцева. Сухаржы.—Перавыбары с. с. і КСМ, выд. „Мол. Гвардия" 1930 г.. Левігев—„Сельсаветы тварам к колгасам, ДВЗ, 1930 г., Сборн. с. с, і колект., выд. Комакадэміі, 1930 г. Дом Комасьветы.

4. Практычныя задачы партыі ў перавыбарчую кампанію 1930-31 г.

### ДАДАТАК

Актыўнае супраціўленьне кулацтва і ўсіх антысавецкіх элемэнтаў соцыялістычнаму наступленьню патрабуюць асаблівай дбайнасьці ад органаў пролетарскай дыктатуры—саветаў.

Саветы павінны стаць апорнымі пунктамі соцыялістычнага наступленьня, бязьлітасна падаўляючы супраціўленьне клясавага ворага, мобілізуючы ўсю энэргію працоўных вакол пытаньня выкананьня прамфінпляну 3-га году пяцігодкі, разгортваючы і ўзмацняючы колгасны рух, збожжа нарыхтоўкі і мобілізуючы сродкі насельніцтва і г. д.

У часе выбарчай кампаніі неабходна завастрыць гэтыя задачы, садзейнічаць замацаваньню і разьвіцьцю нашых дасягненьняў у розных галінах соцбудаўніцтва.

Паказаць пры гэтым, што галоўную ўвагу трэба зьвярнуць на падняцьце актыўнасьці рабочых і сялян беднякоў, серадлякоў і колгасьнікаў. Значную ролю пры гэтым адыграюць арганізацыі груп

| Пытаньні для прапрацоўкі | Мэтодычныя заўвагі |
| --- | --- |
| | беднаты, работа з батрацтвам і сярод жанчын, праз шырокае разгортваньне самакрытыкі, правільная організацыя выбараў і строгае захаваньне выбарчага законадаўства—усё гэта павінна забясьпечыць падбор лепшых кандыдатаў у саветы і ачысьціць саўапарат ад клясава чужых элемэнтаў. Крытыка і самакрытыка дапамогуць нам выявіць ухілы ад правільнай лініі партыі як у рабоце саветаў, так і ў выбарчай кампаніі і даць належны адпор правапортуністычным элемэнтам і „левым загібшчыкам“.<br><br>Надыходзячая выбарчая кампанія, як вядома, будзе праходзіць ў новых умовах. Гэтыя ўмовы выклікалі неабходнасьць перагледзець выбарчае законадаўсва, якое адбівае новыя моманты, узьнікшыя ў сувязі з перабудовай работы саветаў. Неабходна вывучыць гэтае законадаўства і мобілізаваць усю сетку партасьветы на дапамогу перавыбарчай кампаніі. |




*Адказныя рэдактары:* **О. Канакоцін, Танхілевіч, Лабадаеў**

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

**ОРГАН ЦККП(б)Б**

**АБАГУЛЬВАЕ** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйным будаўніцтве і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**ВЫВУЧАЕ** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтады і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**ДАЕ** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і пропагандыстага матар'ялы—факты, лічбы па пытаньнях бягучай працы.

**ДАПАМАГАЕ** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сэкратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўніком парт. асьветы, групоргам, цэхоргам, зьеноргам і інш.

**АСЬВЯТЛЯЕ** чарговыя пытаньні комсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**СТАВІЦЬ** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі.

**РЭГУЛЯРНА** зьмяшчае крытыку і бібліографію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**ЗЬМЯШЧАЕ** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях.

**Кожная гарадзкая і вясковая партыйная і комсамольская ячэйка, кожны агітатар, пропагандысты, цэхавы, групавы і зьвенавы організатар, кожны партыйны актывісты павінен падпісацца на часопісь**

**„ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК"**

**Цана 15 кап.**